# ЛАБІРЫНТ



*№21, снежань 2012*

*Студэнцкая гістарычная суполка "Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага"*

## Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі Вялікага Княства Літоўскага




Этнічныя характарыстыкі ВКЛ нашмат часцей выступаюць у працах гісторыка-публіцыстычнага характару чым у навуковай гістарыяграфіі. Гісторыкі стараюцца не звязвацца з гэтай праблемай, напэўна таму, што ўсведамляюць прысутнасць у ёй палітычна-ідэалагічнага кантэксту і асцерагаюцца ягонага ўплыву на іх навуковыя канструкцыі.

Ціск палітычнай ідэалогіі на навуковую гістарыяграфію ВКЛ зазначыўся ўжо з самых яе пачаткаў у XIX ст. Падчас русіфікацыі земляў былога ВКЛ, якая шырока разгарнулася пасля паўстання 1863-1864 гг., адной з ейных ідэалагічных падпораў стала вышукванне рускіх каранёў у гісторыі гэтай дзяржавы. У расейскай гістарыяграфіі, у тым ліку навуковай, ВКЛ трактавалася як "літоўска-руская дзяржава". Менавіта такі тэрмін нязменна выступае ў назвах манаграфіяў вядомых расейскіх гісторыкаў Мацея Любаўскага, Хведара Леантовіча, Івана Лапы і інш. У гэтай назве слова "руская" разумелася як "расейская", паколькі ў Расейскай імперыі ўкраінцы і беларусы не лічыліся самастойнымі народамі.

Канкурэнцыйная расейскай польская гістарыяграфія ў тым жа XIX ст. актыўна распрацоўвала і прапагандавала этнічна летувіскую характарыстыку ВКЛ, прадстаўляючы яго прадуктам эвалюцыі летувіскага родавага грамадства. У ходзе гэтай эвалюцыі нованароджаная дзяржава паралельна з фармаваннем унутранай структуры быццам ажыццявіла падпарадкаванне (захоп) вялікага абшару старажытнарускіх земляў, уступіла ва унію з Польшчай і з цягам часу стала складной часткай апошняй.

У гэтых двух інтэрпрэтацыях выразна заўважна імкненне ўключыць ВКЛ у кантэкст уласнай - расейскай або польскай, гісторыі, што мела стаць доказам "законнага" валодання землямі былога Вялікага Княства ў навейшыя часы. У канцы XIX і пачатку XX ст. здолелі сфармаваць свае погляды на ВКЛ летувіская і беларуская гістарыяграфіі. Летувіскія гісторыкі перанялі польскую інтэрпрэтацыю, беларусы ж удакладнілі расейскую версію і прадставілі ВКЛ як "беларуска-літоўскае гаспадарства". Таксама і ва ўкраінскай гістарыяграфіі часам выказваліся (і выказваюцца зараз) погляды на ВКЛ як на ўкраінскую дзяржаву.

Савецкая афіцыйная гістарыяграфія прыняла польскі варыянт этнічнай характарыстыкі ВКЛ (часам з агаворкамі, што была гэта дзяржава летувіскіх і беларускіх феадалаў), акцэнтуючы ўвагу на палітычным ды эканамічным прыгнёце беларусаў у гэтай дзяржаве і такім чынам апраўдваючы быццам бы вызвольнае далучэнне Беларусі да Расеі пры падзелах Рэчы Паспалітай. *Працяг на 35 старонцы….*

# Як шляхта каляды спраўляла

Аж да XVIII стагоддзя галоўным зімовым святам у беларусаў былі Каляды. Выраз жа “Новы год” не ўжываўся беларусамі аж да эпохі Асветы, гэта значыць, да другой паловы 18 стагоддзя.



Хоць самі гэтае свята ў сучасным яго разуменні тады ўжо сустракалі, аднак звалі яго Сільвестрам – у гонар Дня святога Сільвестра, якое выпадала якраз на 31 снежня.

Як і цяпер, тагачаснае грамадства было падзеленае – праваслаўныя карысталіся адным календаром, каталікі – другім. Бок апошніх прынялі і ўніяты. Аднак варта адзначыць, што колькасць праваслаўных сярод арыстакратыі няўмольна скарачалася і да канца XVIII стагоддзя звялася да досыць мізэрнага працэнта... Таму нараджэнне Хрыста ў цэлым сустракаў “народ шляхецкі” разам з заходнімі суседзямі.

***“Ціхая ноч, святая ноч…”***

Да святкавання Калядаў у шляхецкіх дварах рыхтаваліся яшчэ з позняй восені, загадзя складаліся спісы страў, рабіліся запасы. Таму само святкаванне дзівіла сваім размахам.

Пачынала святы вігілія – куцця. У гэты дзень, калі ўжо цямнела, сам гаспадар ці хтосьці з падручных выходзіў на вуліцу, каб паглядзець, ці не запалілася першая зорка, пасля чаго можна было садзіцца за стол. Перш чым прыняцца за трапезу, нашы продкі дзяліліся адзін з адным аплаткай. Першым разломваў аплатку галава роду, затым астатнія, паводле старшынства і месца ў родавай іерархіі. Часам гэтыя аплаткі нават перасыламіся з адной сядзібы ў іншую сваякам і сябрам. Затым у шляхецкіх і магнацкіх сем’ях абавязкова зачытваліся ўрыўкі з Евангелля – тая частка, дзе гаворка ішла аб Калядах. Часцей за ўсё гэта былі вобразна напісаныя ўрыўкі з Евангелля ад Лукі.

Звярталі ўвагу і на тое, хто прысутнічаў за сталом. Лічылася, што трынаццаць удзельнікаў – нешчаслівая кампанія, бо трынаццаты будзе на месцы апостала-здрадцы Юды, чаго, зразумела, нікому не хацелася. Таксама, як і ў сялянскіх хатах, за сталом магло пакідацца незанятае месца – для душ продкаў, што далучаюцца да святочнага застолля.

Што ж да каляднага стала, то тут было абавязковае патрабаванне – 12 страў, прычым усе яны павінны былі быць поснымі. Але гэта не азначала, што стол быў сціплы і пусты. У магнатаў, напрыклад, уся пададзеная рыба ва ўсякім магчымым і немагчымым выглядзе магла лічыцца толькі за адну страву. А рыба падавалася і смажанай, і фаршыраванай, і салёнай...

Рыбныя сталы былі вельмі багатыя, паколькі сажалкі былі ў кожнай вёсцы, таксама селядцы завозілі ў Беларусь з Рыгі або Гданьска ўжо з XVI стагоддзя. Да таго ж гэты прадукт меў і сакральны сэнс: у хрысціянскай сімволіцы рыба – алегорыя Хрыста. Праўда, бедная шарачковая шляхта часам не магла наскрэбці на стол абавязковы тузін страў, таму звярталася да іншых сімвалічных лічбаў – 9, 7 – колькі ставала сродкаў.

Аднак самае істотнае адрозненне – куцця праходзіла без спіртнога, яго ўжыванне лічылася вялікім грахом.

Пасля вігіліі надыходзіў час для выправы на начную калядную службу ў касцёле – пастэрку. Для гэтага і моладзь, і старэйшыя апраналі багатае адзенне, запрагалі ў сані сваіх лепшых коней, імкнучыся бліснуць перад суседзямі, якія з усіх куткоў прыходу з’язджаліся да касцёла. Затое на другі дзень можна было адаспацца і пад’есці – скаромны пачастунак і бесшабашны разгул ужо дазваляўся.

***“Панаехала гасцей…”***

У XVIII стагоддзі ўвайшлі ў моду кулігі, але гэта істотная рыса культуры ўжо не сялянскай – шляхецкай. Куліг – гэта калі кампанія шляхцюкоў, часам з кабетамі і слугамі, сядала ў санкі і накіроўвалася ў госці да кагосьці з суседзяў. Там ужо гулялі два-тры дні запар – пакуль не з’ядалася і не выпівалася ўсё, што было ў хаце. Тады, прыхапіўшы гаспадара хаты, ехалі далей.

Часам гэта гульня працягвалася ад Каляд да Вялікага посту – пакуль не аб'язджалі ўсе маёнткі ў акрузе. І калі багатыя шляхціцы маглі дазволіць сабе карміць-паіць такую чараду на працягу некалькіх дзён, то збяднелай шляхце гэта было ці ледзь пад сілу. Аднак невыпадкова з тых часоў стала вядомая такая прымаўка: пазыч, а пастаў на стол!
Нам, нашчадкам, застаецца толькі дзівіцца моцы вантробаў тагачасных ліцвінаў. Тлустыя і цяжкія стравы старапольскай і старабеларускай кухні суправаджаліся непамернай колькасцю разнастайнага алкаголю.
"Пакланенне Вакху", напрыклад, набыло у 18 стагоддзі пачварныя памеры. Пілі вялізнымі "куляўкамі" – келіхамі без ножкі, якія нельга было паставіць, – венгерскае, бургундскае і іспанскае віно, крыху меншым посудам – "гданскую" гарэлку, хатнія "лікворы" (лікёры, настойкі), шкляніцамі – піва і бражку. Знаходзіліся аматары, якія за гадзіну жартам праглыналі цэлы "кош шампанскага віна".
Зрэшты, калі дрэнна пачастуеш, маглі не толькі выказаць незадавальненне – здаралася, што ў ход пускалі і кулакі або, тым больш, шаблі. У той час добрая гулянка магла скончыцца нават пахаваннямі, што, аднак, нікога моцна не засмучала. Лічылася: добра пагулялі.
А адправіўшы кагосьці да Абрама на піва, гулялі яшчэ раз і ўжо на памінках адпраўлялі ўслед за першым другога, каб ён распавёў, як таго шкадавалі, калі хавалі, і як шмат потым было зноўку выпіта…
Фантастычнымі застоллямі і забавамі славіліся, безумоўна, Радзівілы, ад іх стараліся не адставаць іншыя магнаты: Сапегі, Чартарыйскія... У Радзівілаў, напрыклад, Каляды святкавалі ў літаральным сэнсе тыднямі – ужо і Сільвестр, гэта значыць Новы год, наступіў, а госці да Радзівілаў усё яшчэ прыязджалі-з'язджалі.
Шляхецкія забавы
Можна скласці цэлы каталог забаў 18 стагоддзя, сярод якіх, апроч звычайных танцаў ды застолляў, папулярнымі былі гульні – "нівіны" (нешта кшталту фантаў), а таксама карты ды іншыя азартныя забавы. Але найбольш відовішчнымі былі карузэлі і маскарады. Тагачасная "карузэль" – гэта працяг рыцарскіх турніраў, гэткае шоу-спаборніцтва.
У XVIII стагоддзі рыцары перасталі біцца паміж сабою і спаборнічалі, дэманструючы сваё майстэрства часам з дапамогай вельмі хітрых прыстасаванняў.



У XVIII стагоддзі самай папулярнай забавай сталі маскарады, якія ладзілі літаральна на ўсе святы. З сярэдзіны XVIII стагоддзя з'яўляецца такая форма, як рэдуты. Вось як апісвае рэдуты Анджэй Кітовіч:
"Забава рэдутаў была траякаю — танец, гульня ў карты і прыгляданне іншым. Ходзячы па пакоях там і сям, розныя маскі адны на другіх нападалі ў добрым сэнсе, і казалі, хто ёсьць пад маскаю. Той жа, хаваючы сваю асобу, круціў галавой і не сваім голасам адмаўляўся таго, кім яго падазравалі. На зламанне сораму маладыя людзі мелі такі спосаб: апроч заляў і пакояў публічных, антрэпрэнэры захоўвалі асобныя пакоі пад сваімі ключамі. Замаскіраваны кавалер прасіў ключ да такога пакоя, і даваў пяць-шэсць альбо болей чырвоных злотых, кажучы, што хоча наасобку выпіць бутэльку з прыяцелем, ці ў карты пагуляць. Антрэпрэнэр, не ўваходзячы ў высвятленне таго інтарэсу, бо добра яго разумеў, даваў ключ".
У даўняй шляхце дзіўным чынам суіснавала гарачая набожнасць і дзікая распуста, высакароднасць і подласць, праўдзівыя цноты і

пустая пыха. У адным цяжка адмовіць – у сапраўдным размаху пачуццяў і спраў, якія выклікаюць здзіўленне і захапленне ў нас, нашчадкаў.
**Артыкул:** *Віталя Быля*



# Вацлаў Іваноўскі

Заснавальнікам лідскай галіны Іваноўскіх з'яўляецца Станіслаў Іваноўскі (1819-1900) - службовец канцылярыі Гарадзенскага дваранскага дэпутатскага сходу і Гарадзенскай палаты дзяржаўных маёмасцяў. Пасля трох шлюбаў з мясцовымі шляхцянкамі: Антанінай Быкоўскай, Каралінай Клімантовіч, і Станіславай-Фільяменай Губарэвіч становіцца ўладальнікам фальваркаў Лябёдка, Лябёдка Клімантовічаў, часткі маёнтка Галавічполе у Стара-Васілішскай воласці Лідскага павету (зараз Шчучынскі раён) і бацькам траіх дзяцей: Марыі, Юзэфы і Леанарда.



Леанард Станіслававіч Іваноўскі (1845 - 1919) атрымаў добрую адукацыю: Віленская гімназія, Санкт-Пецярбургскі тэхналагічны інстытут (1868). Больш дваццаці гадоў будаваў прамысловыя прадпрыемствы па ўсёй Расіі. Стаў дзейсным стацкім дарадцам, супрацоўнічаў з Дз. І. Мендзялеевым, быў старшынём Варшаўскага таварыства агароднікаў. Заклаў у Лябёдцы сад на 20 гектараў, займаўся селекцыяй. Двойчы на ўсерасійскіх сельскагаспадарчых выставах гародніна з яго агароду была адзначана залатымі медалямі. Узяў шлюб з Ядвігай Рэйхель, з якой меў пяцёра дзяцей: Юрыя (1876-1965), Вацлава (1880-1943), Тадэвуша (1882-1970), Алену і Станіслава (1887 г. н.).

Хаця ў сям'і Іваноўскіх і карысталіся ў штодзённым ужытку польскай мовай, бацька лічыў сябе і свой род нашчадкамі шляхты старой Літвы. Сямейнае выхаванне ў падобным духу дало свой плён: ягоны сын Вацлаў, які нарадзіўся 7 чэрвеня 1880 года ў Лябёдцы, вызначыў сябе, як беларуса, і гаварыў на мове свайго народа. Браты Вацлава Тадэвуш і Юры (Ежы) з узростам далучыліся да палітычнага і нацыянальнага руху: адзін – Літвы, другі – Польшчы. У 1891 г. сям'я Іваноўскіх пераехала ў Варшаву.

У 1899 годзе Вацлаў скончыў 5-ю Класічную гімназію ў Варшаве і таксама, як і бацька, Пецярбургскі тэхналагічны інстытут (1904). Асістэнт кафедры тэхналогіі харчовых прадуктаў роднага інстытуту (1905), стажыроўка ў Мюнхенскім палітэхнічным інстытуце, даследванні па цукровых бураках у Віленскай губерні і на грунце гэтай працы ў 1909 г. атрымоўвае ступень доктара тэхналагічных навук. У 1909-1913 г. г. дацэнт Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута, выкладчык курсу ферменталогіі на Вышэйшых жаночых палітэхнічных курсах і адначасова старшы кансультант пры Міністэрстве сельскай гаспадаркі. У 1912 г. выдадзена першая яго праца "Вынікі выпрабаванняў садавінных і гароднінных сушылак". У сярэдзіне 1913 г. пераязджае ў Вільню, кіруе прамыслова-гандлёвым аддзелам Віленскага сялянскага таварыства.

Многае ў яго пераездах, змена відаў дзейнасці тлумачыцца палітычнымі прыхільнасцямі Вацлава Іваноўскага. Вацлаў Іваноўскі - адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага

руху. Вызначыўшы сябе, як беларуса, ён зрабіў беларускае адраджэнне мэтай свайго жыцця.
Ужо падчас вучобы ў Пецярбургу ён здолеў згуртаваць вакол сябе студэнтаў-беларусаў, якія ўзімку 1901-1902 гадоў утварылі нелегальную Беларускую рэвалюцыйную партыю. Стаў яе лідэрам. З 1902 года БРП пачала займацца выдавецкай дзейнасцю, надрукаваўшы зварот "Да інтэлігенцыі", адрасаваны адукаваным беларусам. Першы пункт праграмы дзейнасці нацыянальнай інтэлігенцыі быў сфармуляваны так: "Стварыць гурткі з мэтай працы над роднай мовай (граматыка), краязнаўствам, гісторыяй, літаратурай. Звярнуцца да спецыялістаў з просьбай аб выкладанні і напісанні адпаведных прац. Палегчыць іхнюю працу матэрыяльнай спамогай".
У 1903 годзе В. Іваноўскі разам з А. Пашкевіч (Цёткай), і братамі Луцкевічамі выдае ў Лябёдцы першы нумар нелегальнага часопіса "Свабода". (Увесь наклад, каб пазбегнуць арышту, вымушаныя былі знішчыць самі выдаўцы). Да 1904 года намаганнямі Іваноўскага ў Пецярбургу і Кракаве выйшлі 8 друкаваных выданняў. Пасля расколу БРП узначаліў "Круг беларускай народнай прасветы і культуры". У 1904-1905 г.г. сябар ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады, займаўся прапагандысцкай працай, заснаваў партыйную друкарню ў Менску і выдавецтва "Грамада" ў Пецярбургу.
Адначасова пад псеўданімам Вацюк Тройка супрацоўнічаў з газетамі "Наша доля" і "Наша ніва". Адзін з арганізатараў створанай у 1906 годзе ў Пецярбургу выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца". Укладальнік першага беларускага лемантара, выдадзенага лацінкай і кірыліцай.
Зрабіў апрацоўку першага буквара сучаснай беларускай мовы з асноўнымі мовазнаўчымі тэрмінамі. Быў ініцыятарам увядзення знакаў "ч", "ш", "ж" у беларускай лацініцы па чэшскаму варыянту, каб адрозніваць яе ад польскага алфавіту.
У канцы 1909 года па запрашэнні Іваноўскага ў Пецябруг прыехаў Купала, які актыўна ўключыўся ў выдавецкую дзейнасць. Кіраваная Іваноўскім суполка стала прыбытковым камерцыйным прадпрыемствам, якое выдавала творы Купалы, Коласа, Цёткі, Бядулі, Гартнага, Буйлы, Журбы ды шмат іншых.
Разнабаковая грамадская работа прымусіла В. Іваноўскага адысці ад далейшай навуковай дзейнасці ў сталіцы Расіі.
У сярэдзіне 1913 года ў Вільні становіцца старшынём зноўку створанага Беларускага вы давецкага таварыства, садзейнічаў заснаванню беларускай кнігарні В. Ластоўскага. З 1906 па 1915 год створаныя ім выдавецтвы надрукавалі кірыліцай і лацінкай каля 80 выданняў агульным накладам 220000 асобнікаў. Гэта прыкладна палова ўсіх выдадзеных у гэтыя гады кніг і звыш 60% іх накладу. У канцы 1913 года гэта выдавецтва выпусціла ў свет зборнік М. Багдановіча "Вянок" з родавым гербам княгіні Магдалены Радзівіл ("лебедзь на хвалях"), якая падтрымлівала выдавецтва значнымі грашовымі сумамі. Гэты герб у знак удзячнасці княгіні фігураваў на чатырох выдадзеных у Вільні кнігах.
Асветніцкую дзейнасць перапыніла Першая сусветная вайна. У сакавіку – верасні 1915 Іваноўскі - старшыня Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, а восенню таго ж года арганізуе эвакуацыю людзей у Расію. Зімой-летам 1916 г. працуе ў Арле ў вайсковай прамысловасці, восенню вяртаецца ў Міністэрства сельскай гаспадаркі і займаецца забеспячэннем абсталяваннем перапрацоўчых фабрык.
У 1916 г. завочна абраны ў Беларускі нацыянальны камітэт пад старшынствам Рамана Скірмунта.
Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 уключыўся ў палітычную дзейнасць, удзельнічаў ва Усебеларускім з'ездзе 1917 у Менску.
У 1918 годзе выконвае абавязкі рэктара Менскага педагагічнага інстытута і міністра асветы ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), які ўзначальваў Антон Луцкевіч. У снежні 1918, пасля адступлення нямецкіх войск, застаўся ў Менску разам з Я.Лёсікам, А.Уласавым і іншымі сябрамі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, спадзеючыся на стварэнне кааліцыйнага ўраду БССР з удзелам камуністаў і сацыял-дэмакратаў. У маі 1919 г. арыштаваны савецкімі ўладамі і інтэрнаваны ў Смаленск. Пасля вызвалення з смаленскай турмы адмовіўся выехаць у Польшчу, вярнуўся ў Менск, дзе працаваў

загадчыкам літаратурна-выдавецкага аддзела Менскага губернскага камісарыята асветы Літоўска-Беларускай ССР.
Восенню 1919, пачаў супрацоўнічаць з польскай адміністрацыяй. У лютым-сакавіку 1920 г. як упаўнаважаны Найвышэйшай рады БНР удзельнічаў у беларуска-польскіх перамовах, імкнуўся прадухіліць падзел Беларусі, выступаў за стварэнне федэрацыі Польшчы і Беларусі. Адначасова займаўся пашырэннем сеткі беларускіх школ на Меншчыне, кіраваў Менскім беларускім педагагічным інстытутам, арганізаваў выпуск літаратурнага штотыднёвіка "Рунь". У кастрычніку 1920 дырэктар дэпартаменту гандлю ў складзе ўрада Сярэдняй Літвы, які ўзначальваў Л. Жалігоўскі.
Падзел Беларусі ў выніку Рыжскай мірнай дамовы часова пазбавіў Іваноўскага надзеі на ажыццяўленне ідэі беларускай дзяржаўнасці. Адмовіўся ад палітычнай дзейнасці і вярнуўся да навуковай працы.
У пачатку 1922 г. Вацлаў Іваноўскі запрошаны ў Варшаўскую Палітэхніку на пасаду надзвычайнага прафесара па кантракту, узначальвае кафедру і аддзел тэхналогіі ферментацыі і харчавання. У 1923 г. сумесна з Н. Мерынгам выдае падручнік па перапрацоўцы гародніны і садавіны, у наступным годзе выходзіць другое выданне. У 1925 г. становіцца ардынарным прафесарам. У 1930-1933 г. г. дэкан хімічнага аддзялення.
У сваёй навуковай дзейнасці займаўся пытаннямі перапрацоўкі садавіны і гародніны, хлебапячэння і перапрацоўкі малака, вытворчасці і выкарыстання спіртавых сумесяў, імпрагнацыі драўніны, ачысткі і выкарыстання пасляцэлюлёзных стокаў. Неаднаразова друкаваўся ў польскіх прафесійных перыядычных выданнях і за мяжой. Рэпразантаваў Польшчу на Міжнароднай канферэнцыі па пытаннях стандартызацыі аналізаў прадуктаў харчавання ў Парыжы ў 1929 г. і на Міжнародным кангрэсе малочнай вытворчасці ў Капенгагене ў 1931 г.
Значэнне даследчых прац прафесара Іваноўскага заключалася ў паслядоўным імкненні ўкаранення іх вынікаў у практычную дзейнасць польскай прамысловасці. Быў уладальнікам 7-мі патэнтаў, прадстаўленых Бюро патэнтаў Рэчы Паспалітай. Меў добрыя сувязі з прамысловасцю, якія выкарыстоўваў таксама для канцэнтравання сродкаў на будаўніцтва новых будынкаў Варшаўскай палітэхнікі – хімічнай тэхналогіі і электратэхнікі, якія былі пабудаваны з 1928 года аб'яднаннем "Тэхналагічнае навучанне". Быў ён пастаянным сакратаром тэхналагічнай камісіі гэтага аб'яднання, а таксама кіраўніком праектных работ новых лабараторый у будынку хімічнай тэхналогіі.
У 20-я годы ў Баярках, якія атрымаў у спадчыну з маёнтку Лябёдка, арганізаваў агародныя і садовыя гаспадаркі. У 1935-1937 г. г. кіраўнік вайсковага навучання Варшаўскай Палітэхнікі.



***Вацлаў Іваноўскі (1904)***

Прафесар В. Іваноўскі быў шматгадовым куратарам інстытуцкіх таварыстваў "Гурток вільнян", "Гурток зямлі Наваградскай". Быў вялікім сябром моладзі, любімцам студэнтаў. Для дыпламантаў знаходзіў субсідыі з ферментатыўна-харчовай прамысловасці і аказваў дапамогу ў атрыманні работы. Як гуманіст і дэмакрат быў талерантным да палітычных перакананняў студэнтаў.
Адыход ад палітычнай дзейнасці не азначаў змены поглядаў Іваноўскага. Палітыка польскага ўраду ў дачыненні да беларускай меншасці, існаванне БССР з яе палітыкай беларусізацыі зрабілі сваю справу: як і значная частка беларускіх дзеячоў, Іваноўскі быў

гатовы прыняць саюз з Расіяй. Восенню 11 верасня 1939 пакінуў Варшаву перад самым акружэннем яе нямецкімі войскамі. Калі восенню 1939 года былы студэнт Іваноўскага, сустрэўшы прафесара ў Вільні, спытаў, чаму ён не ўцякае на Захад, той адказаў: “Чакаю ад’езду ў Менск, каб будаваць Беларусь: вы ж ведаеце, я – беларус. Я хачу быць у цэнтры падзей”. Усё ж Іваноўскі застаўся ў Вільні, дзе да чэрвеня 1941 году В. Іваноўскі быў кіраўніком кафедры хімічнай тэхналогіі Віленскага ўніверсітэту.

З нападам Гітлера на СССР працягваецца трагедыя Іваноўскага. Не знайшоўшы падтрымкі беларускай справы ва ўрадаў Польшчы і СССР, з пачаткам германа-савецкай вайны ён спрабуе наладзіць кантакты з акупацыйнымі ўладамі. На той час адзінай мэтай Іваноўскага і ягоных аднадумцаў было захаванне народу, яго асвета і пашырэнне нацыянальнай свядомасці да часу, пакуль, згодна з іхнімі спадзяваннямі, Германія і СССР не знясіляць сябе ў вайне і адбудзецца перадзел Еўропы заходнімі хаўруснікамі. А пакуль Іваноўскі ўдзельнічае ў стварэнні нелегальнай ва ўмовах акупацыі Партыі беларускіх нацыяналістаў, якая магла б даць пачатак ўраду незалежнай Беларусі ў паваеннай Еўропе.

У першыя месяцы нямецкай акупацыі кіраваў адноўленым Беларускім нацыянальным камітэтам. У канцы 1941 года прыехаў у Менск. Ён легальна супрацоўнічае з акупацыйнымі ўладамі. У 1942 годзе прызначаны на пасаду бурмістра Менску. Ведучы адначасова канспіратыўную палітычную дзейнасць, імкнуўся стварыць незалежную беларускую дзяржаву. Разлічваў пры гэтым на супрацоўніцтва польскага эміграцыйнага ўраду і яго мясцовых улад. Увосень 1941 года прадстаўнік польскай Арміі Краёвай у Менску даносіў лонданскаму ўраду: “…беларусы змушаны манеўраваць так, каб ніякім чынам не звярнуць на сябе ўвагі немцаў, прынамсі, да часу стварэння беларускай арміі (яна мае налічваць 150 000 асобаў), бо сёння галоўнай іх працай ёсць працягванне сваіх людзей у аддзелы з тым, каб стварыць суполкі партыі аж да поўнага апанавання войска і паліцыі… Беларусы імкнуцца да таго, каб мірным шляхам атрымаць ад немцаў як найболей, а рэшту забраць па іхнім разгроме”. Іваноўскі быў ініцыятарам перамоваў з галоўным камандаваннем польскай Арміі Краёвай, абяцаў ёй не перашкаджаць у рабоце. З другога боку, пад апякунствам Іваноўскага ў гэты час у адной з гарадскіх управаў у Менску працаваў падпольшчык Баляслаў Берут, будучы прэзідэнт ПНР. У гэтай дзейнасці меў у Менску не толькі памочнікаў, але і ворагаў, якія абвінавачвалі яго перад гестапа за прапольскую дзейнасць.

У 1943 г. - старшыня Беларускай рады даверу пры генеральным камісары Беларусі В. Кубэ, адначасова намеснік старшыні Беларускага навуковага таварыства. На гэтай пасадзе вельмі шмат зрабіў для справы беларусізацыі: яго намаганнямі на акупаванай тэрыторыі Беларусі было адкрыта шмат беларускіх школ і іншых навучальных устаноў.

З забойствам Кубэ ў ноч з 21 на 22 верасня 1943 г. сітуацыя змянілася. Новым рэйхскамісарам Беларусі стаў генерал-лейтэнант паліцыі фон Готберг.

Готбергу значна больш імпанаваў Радаслаў Астроўскі, стары нямецкі шпіён, які пасля эвакуацыі са Смаленску у лістападзе 1943 года быў адклікаты Готбергам у Менск. Тут ужо знаходзілася СД, якое пераехала са Смаленска, і з якім быў цесна звязаны Астроўскі. З дапамогай СД Астроўскі пераканаў Готберга ў неабходнасці “актывізацыі” існага Камітэта даверу, але без В. Іваноўскага. Агенты Астроўскага са згоды нямецкай паліцыі пачалі рыхтаваць змову супраць Іваноўскага.

Спадзяванні Вацлава Іваноўскага ў чарговы раз аказаліся марнымі. У 1943 годзе савецкія войскі рухаліся на захад, а перамога ў вайне СССР, роўна як і Германіі, азначала закрыццё пытання аб стварэнні беларусамі самастойнай дзяржавы.

Памёр В. Іваноўскі 7 снежня 1943 году з прычыны ран, атрыманых у выніку замаху, здзейсненага ягонымі палітычнымі супраціўнікамі. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Менску.

Адзін са сведкаў замаху ўспамінаў: ”Вацлаў Іваноўскі ехаў на брычцы. У самым пачатку вуліцы Астроўскага, каля Кацярынскай царквы, вылецелі з двара двое. Кінуліся да яго, выцягнулі наган і наганам збілі яго да паўсмерці… Памёр Іваноўскі праз некалькі гадзін у шпіталі. Ксёндз Зянон Ігнатовіч, які

служыў у Чырвоным касцёле, застаў яго яшчэ жывым і зрабіў яму апошняе намашчэнне.
Немцы загадалі ксяндзу Ігнатовічу хаваць В. Іваноўскага. Але той адмовіўся, сказаў, што Іваноўскі не каталік, і таму патрэбны спецыяльны дазвол віленскага біскупа. Намеснік біскупа сабраўся ехаць у Менск, але чыгуначныя каляі былі разабраны, і ён з паўдарогі вярнуўся. Хавалі В. Іваноўскага праваслаўныя святары. На яго магіле быў пастаўлены крыж з надпісам па-беларуску. Хутка пасля 3-га ліпеня 1944 года надпіс знік, а крыж стаяў яшчэ доўга, гадоў пятнаццаць".
Смерць Іваноўскага выклікала ў Менску вялікую жалобу, а пахаванне яго вылілася ў масавую дэманстрацыю. Труна з целам была выстаўлена ў гарадскім тэатры. Ля труны стаяла ганаровая варта Саюза Беларускай Моладзі. Тысячы мянчан ішлі развітацца з "бацькам горада", як яго папулярна тут звалі. На пахаванне прыехаў шэраг дэлегатаў з па-за Менску. Сярод іх былі: Францішак Аляхновіч і дырэктар Беларускай гімназіі, у адкрыцці якой ён так шмат прыклаў намаганняў, д-р Ф. Грышкевіч з Вільні, віца-старшыня Беларускага Аб'яднання ў Беласточчыне інж. У. Тамашчык і іншыя.
"Яму снілася незалежная Беларусь, - піша доктар Туронак у прадмове да сваёй кнігі. – Толькі гэтая мэта надавала сэнс усім ягоным намаганням, скіраваным на абуджэнне і пашырэнне нацыянальнай свядомасці народа. Ужо маладым студэнтам ён зразумеў, што дасягненне гэтай мэты не будзе магчыма без рэальнай вонкавай падтрымкі. Таму ён супрацоўнічаў з Расіяй, Польшчай, Нямеччыннай – усё залежала ад часу падзеяў ды ад здольнасці і зацікаўленнасці магчымых хаўруснікаў у падтрымцы інтарэсаў Беларусі. Аднак жа толькі ёй адзінай ён прысягнуў на вечную вернасць, іншых жа ўспамінаў праз прызму інтарэсаў Беларусі і чакаў ад іх разумення і падтрымкі".
9-га снежня 1990 года да 110-х угодкаў з дня нараджэння Вацлава Іваноўскага на яго магіле зноў пастаўлены дубовы крыж.

**Літаратура;**

*Калубовіч А. Крокі гісторыі: Дасьледаванні, артыкулы, успаміны. – Беласток:ГаМакс; Вільня: "Наша Ніва"; Менск: Маст. Літ., 1993;*
*Омелько С. В. По следам рода Ивановских. Шчучынишчына. Мінулае і сучаснасць. Гродна-Шчучын. 1995-1997 г. г., стар. 90-93.*
*Панада У. "Вацлаў Іваноўскі: шлях да смерці"/ Наша слова, №39, 1993;*
*Сакалоўская А.С.. Кальварыя - ,Мн.: Касцёл Св.Сымона і Св.Алены,1997;*
*Туронак Ю. Жыццё і дзейнасць Вацлава Іваноўскага. Наш радавод. Кніга 6. Ліда, 1994 г. г., стар 99-102;*
*Туронак Ю. "В. Іваноўскі і адраджэнне Беларусі" / Маладосць , №8,1994;*
*Хацкевіч А. "Хто забіў Іваноўскага?" / Звязда, 22.07.1993;*



# Нябесныя знакі падчас кіравання полацкага князя Усяслава Брачыславіча

Вайсковым выправам князя папярэднічаў шэраг нябесных знакаў, што сведчыла пра незвычайныя здольнасці Усяслава.



Полацкі князь Усяслаў Брачыславіч (блізу 1029 – 1101 гг.) з'яўляецца адной з самых знакамітых і загадкавых постацяў у беларускай гісторыі. Найбольш поўна жыццё і дзейнасць

князя адлюстравана ў “Аповесці мінулых гадоў” (далей АМГ). Гэты летапіс цікавы тым, што яго аўтары жылі амаль у адзін час з полацкім князем, а таму адлюстравалі менавіта тыя погляды на асобу Усяслава, якія былі характэрны для тагачаснага кіеўскага грамадства. Вобраз Усяслава Чарадзея вельмі ўражваў яго сучаснікаў, з яго постаццю звязаны вялікі комплекс паданняў пра яго звышнатуральныя здольнасці, якія адлюстроўваюць узровень развіцця тагачаснай духоўнай культуры [5, с. 518]. У АМГ і ў некаторых іншых крыніцах захаваўся шэраг апісанняў розных цудаў і астранамічных з’яў, якія былі звязаны з імем полацкага князя. Чамусьці на іх даследчыкі звярталі недастаткова ўвагі. Мэта працы – рэканструкцыя вобразу полацкага князя Усяслава Брачыславіча на падставе летапісных звестак аб “нябесных знаках” XI – пач. XII стст.

Нараджэнне полацкага князя даследчыкі адносяць да зімы 1028/29 гадоў [7, с. 16 – 17]. Летапіс паведамляе, што князь быў народжаны “от вълхвованья” [3, с. 67]. Беларускі гісторык С. В. Тарасаў на падставе летапісных звестак і быліны аб “Волхе Усяславічы” мяркуе, што нараджэнне Усяслава супала з незвычайнай нябеснай з’явай – палярным ззянем: “В лето 6536. Знаменье змиево явися на небеси, яко видети всей земли” [7, с. 16 – 17, 3, с. 65]. Наконт сутнасці гэтай з’явы ёсць розныя меркаванні: звычайна “знаменье змиево” атаясамляюць з палярным ззянем, але ў АМГ пад “змеем” таксама разумеецца і падзенне метэарыту: “…спаде превеликъ змий от небесе, и ужасошася вси людье. В се же время земля стукну, яко мнози слышаша” [3, с. 91]. Параўнанне следу ад метэора са змеем захавалася ў сялянскім асяродку да XX ст. Як бы тое ні было, нябесны знак 1028 г. летапісцы напрамую з Усяславам не звязвалі.

Упершыню Усяслаў Брачыславіч згадваецца ў летапісах пад 1044 г. у сувязі са смерцю бацькі і пачаткам уласнага княжання: “В се же лето умре Брячиславъ, сынъ Изяславль, внукъ Володимерь, отець Всеславль, и Всеславъ, сынъ его, сяде на столе его” [3, с. 67]. У 1063 г. полацкі князь згадваецца ў сувязі з незвычайнай прыроднай з’явай: “В се же лето Новегороде иде Волховъ вспfive дний 5. Се же знаменье не добро бысть, на 4-е бо лето пожже Всеславъ градъ” [3, с. 71]. Як бачна, аўтар АМГ напрамую звязвае ўдалы вайсковы паход полацкага князя на Ноўгарад са зменай плыні Волхава. Такім чынам, прыродная з’ява стала прадвесцем благога здарэння.

АМГ згадвае полацкага князя ужо праз 2 гады і зноў у сувязі з вайной. Самым цікавым з’яўляецца тое, што гэты летапісны ўрывак змяшчае самую вялікую колькасць апісанняў астранамічных з’яў і розных цудаў, якія адбываліся ў часы старажытнасці і ў часы летапісца, прычым частка апошніх непасрэдна звязваецца з імем Усяслава: “В лето 6573 [1065]. В се же лето Всеславъ рать почалъ. В си же времена бысть знаменье на западе, звезда превелика, луче имущи акы кровавы, въсходящи с вечера по заходе солнечнемь, и пребысть за 7 дний. Се же проявляше не на добро, посемь бо быша усобице многы и нашествие поганыхъ на Русьскую землю, си бо звезда бя акы кровава, проявляющи крови пролитье… Пред симь же временемь и солнце пременися, и не бысть светло, но акы месяць бысть, его же невегласи глаголють снедаему сущю. Се же бывають сица знаменья не на добро. Се же бывають сица знаменья не на добро. Мы бо по сему разумеемъ, яко же древле, при Антиосе, въ Иерусалиме случися внезапу по всему граду за 40 дний являтися на вздусе на конихъ рищющимъ, въ оружьи, златы имущемъ одежа, и полкы обоя являемы, и оружьемъ двизающимся; се же проявляше нахоженье Антиохово на Иерусалимъ. Посемь же при Нероне цесари в том же Иерусалиме восия звезда, на образъ копийный, надъ градомь: се же проявляше нахоженье рати от римлянъ…Знаменья бо въ небеси, или звездах, ли солнци, ли птицами, ли етеромь чимъ, не на благо бывають; но знаменья сиця на зло бывають, ли проявленье рати, ли гладу, ли смерть проявляють” [3, с. 71 – 72]. Разгледзім падрабязней дадзены ўрывак. З апісанняў летапісу вынікае, што паходу Усяслава папярэднічала з’яўленне на небе каметы Галея, якая ўпершыню была заўважана 20 сакавіка 1066, а найбольшай яркасці дасягнула 24 красавіка [8]. Апісанне каметы ў АМГ адносіцца да перыяду з канца красавіка да пачатку траўня 1066 г. [6, с. 181]. Аднак у летапісе прысутнічае памылка з датыроўкай каметы на год, што тлумачаць імкненнем летапісца распавесці аб сутнасці розных

астранамічных з’яў, якія змяшчае дадзены ўрывак, з-за чаго выкарыстоўваліся запісы, якія не мелі дакладнай часавай прывязкі [6, с. 218]. Магчыма, што аўтар АМГ выкарыстаў у дадзеным выпадку паданні, для якіх была важна сама падзея, а не яе час. Камета стала прадвесцем шматлікіх усобіц і войнаў. Як сведчаць летапісы, полацкі князь у год з’яўлення каметы захапіў Пскоў і Ноўгарад: “Того же лета Всеславь Брячиславичъ Полотцкий рать почалъ. Пріиде кь Псквоу ратію и перси билъ порокы” [4, с. 154]; “Въ лето 6574 [1066]. Приде Всеславъ и възя Новъгородъ, съ женами и съ детми; и колоколы съима у святыя Софие. О, велика бяше беда въ час тыи; и понекадила съима” [2, с. 17]. Сапраўды, рабаванне Сафійскага сабора ў вачах манахаў-летапісцаў павінна было выглядаць праявай паганства полацкага князя, які быў народжаны ад валхвавання. Цікава, што летапісец у запісе пад 1065 г. ускосна праводзіць паралелі паміж Усяславам і Неронам: абодва ў свой час распачалі вайну супраць “святых гарадоў” (хрысціянскімі цэнтрамі), у абодвух выпадках нашэсцю папярэднічае з’яўленне каметы Галея.




Наступнай астранамічнай з’явай ў вылучаным летапісным урыўку з’яўляецца сонечнае зацьменне: “Пред симь же временемь и солнце пременися, и не бысть светло, но акы месяць бысть, его же невегласи глаголють снедаему сущю” [3, с. 71]. Як і ў выпадку з каметай, сонечнае зацьменне таксама адбылося не ў той год, які быў пазначаны ў летапісе. У АМГ апісваецца колцападобнае сонечнае зацьменне, якое адбылося 19 красавіка 1064 г. Як паказалі разлікі астранома М. А. Вільева, паласа зацьмення якраз праходзіла праз Наўгародскую вобласць, у сувязі з чым яно магло разглядацца ў якасці нябеснага прадвесця нашэсця полацкага князя на Пскоў і Ноўгарад [6, с. 41 – 42]. Апісанне гэтага зацьмення цікавае і для вывучэння тагачасных міфалагічных уяўленняў. Паводле летапіснага паведамлення, “невегласи” (просты народ) прычынай зацьмення лічылі паглынанне сонца. Існавала павер’е, зафіксаванае у Кормчай кнізе, згодна якому, ваўкалакі мелі здольнасць праследаваць і паглынаць нябесныя свяцілы (сонца ці месяц), што прыводзіла да зацьменняў. У шведскай міфалогіі падобныя персанажы называліся solvarg, solulf, sonnenwolf [6, с. 41]. На гэтай падставе вядомы даследчык старажытнай астраноміі Д. В. Свяцкі прапанаваў сваю версію разумення радкоў з “Слова пра паход Ігаравы” пра Усяслава Брачыславіча: “великому Хръсови влъкомъ путь прерыскаше” [1, с. 62]. Даследчык лічыць, што дадзены радок трэба разумець якраз у рэчышчэ міфа аб ваўкалаках, якія здольны выклікаць сонечныя зацьменні [6, с. 41 – 42]. Такім чынам, звесткі АМГ пра сонечнае зацьменне 1064 г. і радок з “Слова пра паход Ігаравы” могуць з’яўляцца розгаласам тагачасных народных павер’яў пра полацкага князя-ваўкалака, які меў здольнасць выклікаць сонечнае зацьменне.

У 1092 г. у Полацку адбылося незвычайнае здарэнне, якое таксама было адзначана нейкай астранамічнай з’явай: “В лето 6600 [1092]. Предивно бысть чюдо Полотьске в мечте: бываше в нощи тутънъ, станяше по улици, яко человеци рищюще беси. Аще кто вылезяше ис хоромины, хотя видети, абье уязвенъ будяше невидимо от бесовъ язвою, и с того умираху, и не смяху излазити ис хоромъ. Посемь же начаша в дне являтися на конихъ, и не бе ихъ видети самехъ, но конь ихъ видети копыта; и тако уязвляху люди полоцкыя и его область. Темь и человеци глаголаху, яко навье бьють полочаны. Се же знаменье поча быти от Дрьютьска. В си же времена бысть знаменье въ небеси, яко кругъ бысть посреде неба превеликъ” [3, с. 91]. У Цвярскім летапісе гэтыя падзеі звязваюцца з імем Усяслава: “Въ лето 6600. Быша устрашенія и мечты бесовскыя въ Полотску при князи Всеславе”[4, с. 182]. АМГ дакладна не пазначае, дзе назіраўся нябесны знак, але на адной з мініяцюр Радзівілаўскага летапіса, якая адлюстроўвае нашэсце наўяў на Полацк, на

небе можна пабачыць той самы знак. Кароткасць паведамлення не дазваляе вызначыць дакладна, з якой прыроднай з'явай мы маем справу. Вялікае кола на небе больш за ўсё падыходзіць пад гало. Апісанні нашэсця наўяў таксама варта параўнаць з прыкладамі нябесных знакаў у старажытнасці, якія аўтар АМГ згадаў пад 1065 г. Пры Юсцініяне адбылося нешта падобнае на полацкія падзеі: "и пакы солнце без лучь сьяше: се же проявляше…недузи человекомъ умертвия бяше" [3, с. 72]. Наўі з другой мініяцюры Радзівілаўскага летапісу не адпавядаюць тэксту полацкіх падзей, але падобныя на апісанні відзежу коннага збройнага войска (залатое адзенне, узброеныя) перад нашэсцем Анціёха на Іерусалім. Падобна на тое, што пры апісанні нябесных знакаў, летапісец карыстаўся пэўнымі мадэлямі, якія былі закладзены ў прыкладах са старажытнай гісторыі, якія, ў сваю чаргу, былі запазычаны старажытнарускім летапісаннем з візантыйскіх крыніц.

Такім чынам, летапісы яскрава малююць вобраз Усяслава – ворага Ноўгарада, як у старажытнасці Нерон быў для Іерусаліма, рабаўніка Сафійскага сабора, пачынальніка шматлікіх войнаў, які "немилостивъ есть на кровьпролитье" [3, с. 68]. Вайсковым выправам князя папярэднічаў шэраг нябесных знакаў, што сведчыла пра незвычайныя здольнасці Усяслава. Народжанаму ад валхвавання князю у апошняе дзесяцігоддзе свайго кіравання ў Полацку давядзецца перажыць загадкавае нашэсце наўяў (ці бесаў), якое таксама суправаджалася нябесным знакам. На наш погляд, трэба ўдакладніць выснову А. А. Прохарава аб тым, што ў выпадку з апісанымі незвычайнымі прыроднымі з'явамі мы маем справу не з сапраўднымі падзеямі, а з міфамі вуснай традыцыі, якія потым былі асэнсаваны як прадвесце Усяслававых паходаў [5, с. 520]. Частка гэтых нябесных знакаў была бачна насамрэч: сонечнае зацьменне 1064 г., камета Галея ў 1066 г. і, магчыма, гало 1092 г. Паказальна тое, што большасць пазнейшых летапісаў, якія ўтрымліваюць у сябе АМГ, з апісання гэтых астранамічных з'яў выдалілі згадку пра Усяслава, якая ў тыя часы была ўжо неактуальнай для грамадства.

**Літаратура:**


*Слово о полку Игореве // Злато слово. Век XII / Сост., предисл. и вступ. ст. Н.С. Борисова. – М.: Мол. гвардия, 1986. – 461 с.*

*Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов / Предисл. Б.М. Клосса. – М.: Яз. рус. культуры, 2000. – 692 с.*

*Повесть временных лет / Подг. Текста, перев., статьи и комм. Д.С. Лихачёва. – 2-е изд., испр. и доп. – Спб.: Наука. С-Петерб. изд. фирма, 1996. – 668 с.*

*Полное собрание русских летописей. Т. 15. Тверской сборник; Рогожский летописец. – М.: Наука, 1965. – 503 с.*

*Прохараў А. Усяслаў Брачыславіч / А. Прохараў // Беларуская міфалогія: энцыклапед. слоўнік. – Мн.: Беларусь, 2006. – 518 – 520 с.*

*Святский Д. О. Астрономия Древней Руси / Д. Святский; авт. предисл., комм. и доп. М. Л. Городецкий. – М.: НП ИД «Русская панорама», 2007. – 663 с.*

*Тарасаў С. В. Чарадзей сёмага веку Траяна / С.В. Тарасаў. – Мн.: Навука і тэхніка, 1991. – 67 с.*

*Yeomans, Donald K. Great Comets in History [Электронны рэсурс]. – 2010. – Рэжым доступу: http://ssd.jpl.nasa.gov/?great_comets*


**Артыкул:** *Зміцера Скварчэўскага*



# Каму патрэбна беларуская кніга

Здавалася б, задаваць такое пытанне ў дзяржаве, якая афіцыйна аб'явіла Год кнігі, проста не выпадае, прымуць за дзівака. Але не будзем спяшацца і згаджацца з чыноўнікамі, з афіцыйнымі СМІ, што ў Беларусі жывуць самыя актыўныя і культурныя чытачы на постсавецкай тэрыторыі.

Бадзёрая інфармацыя пра чытацкую актыўнасць нашага люду зноў гучала на Свяце беларускага пісьменства, якое сёлета праводзілася ў Глыбокім на Віцебшчыне.



Глыбоччына — гэта зямля з прыгожымі ландшафтамі, на якой стаяць выдатныя храмы, помнікі свецкай архітэктуры, дзе жывуць добрыя душою, працавітыя, гасцінныя людзі. Да гонару жыхароў унікальнага рэгіёна, яны ведаюць і шануюць сваю слаўную гісторыю, увекавечваюць імёны выбітных продкаў, тут роднае слова гучыць не толькі на культурніцкіх святах. Але, на жаль, русіфікацыя моцна закранула і гэты бласлаўлёны край, што бачна па татальным выгнанні беларускай мовы са школ, з мясцовага друку, са справаводства і ўжытку ў дзяржаўных установах.

Натуральна, калі праводзіцца мерапрыемства, прысвечанае беларускаму пісьменству, то ў цэнтры ўвагі павінна быць літаратура, кнігі, створаныя на роднай мове або на яе перакладзеныя. Усё, што выпускаецца на замежных мовах, не належыць да беларускай культуры. Адкінем прэч дэмагогію пра роўнасць дзвюх дзяржаўных моў і высветлім, што і ў якіх аб'ёмах друкуецца.

У 2011 годзе ў Рэспубліцы Беларусь выпушчана 11084 кнігі і брашуры накладам 34,34 мільёна асобнікаў, з іх на роднай мове — 940 назваў накладам 2,9 мільёна асобнікаў. Увогуле, беларускамоўная літаратура ў агульнай колькасці прадукцыі складае 8,5% (!). У параўнанні з 2010 г. яе выпуск скараціўся на 1,2% па назвах і аж на 27,5% па накладах. Такая рэальная «роўнасць» моў!

Але кнігі на роднай мове яшчэ выходзяць, у тым ліку і мастацкая літаратура. Толькі ці ёсць у іх чытач? Сацыялагічнае даследаванне, праведзенае ў 2011 г., паказала, што 17, 3% насельніцтва (грамадзяне ад 18 да 70 гадоў) не чытаюць мастацкую літаратуру на любой мове. На рускай мове яе чытаюць 82, 5%, на беларускай — 13, 8% апытаных. 80% наогул не чытаюць па-беларуску. На пытанне: «Пры якой умове вы б аддалі перавагу твору аўтара на беларускай, а не рускай мове?» — 68, 4% грамадзян катэгарычна адказалі: «Ніколі!»

Адкуль жа грэблівасць да роднай мовы, чаму мала чытачоў? Адказ на гэтае пытанне знаходзіцца ў сферы адукацыі. Як без ведання мовы можна стаць чытачом? Толькі 18% (!) выпускнікоў сёлета скончылі школы з беларускай мовай навучання. Але гэтая афіцыйная статыстыка патрабуе тлумачэння. Па-першае, у буйных гарадах і амаль ва ўсіх райцэнтрах беларускамоўных школ няма, навучанне на роднай мове як бы вядзецца ў вёсках, па-другое, нават там яна знаходзіцца ў статусе падчарыцы.

Брыдка слухаць чыноўнікаў з Міністэрства адукацыі, якія апраўдваюць выкладанне гісторыі, геаграфіі і іншых прадметаў па рускіх падручніках недахопам грошай. Калі пасля ганебнага рэферэндуму дэнацыяналізаваныя валюнтарысты спяшаліся знішчыць ненавісныя ім падручнікі з бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй» і замяніць іх, то сродкі імгненна знайшліся.

Цынічна выглядае валтузня вакол тэсціравання, выдумкі, што выпускнікі не жадаюць здаваць яго на роднай мове. Калі дзяўчына або юнак вучыліся па-руску, то як ім раптам перайсці на беларускую мову? Дарэчы, а які сэнс? У краіне няма ніводнай ВНУ з беларускай мовай навучання! Мяркую, што самі чыноўнікі ад адукацыі знянацку прапанаваную ім беларускую дыктоўку з грукатам правалілі б, а ў лепшым выпадку вынікі былі б несуцяшальнымі.

У XIX стагоддзі генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю, граф М. Мураўёў, які за жорсткасць у падаўленні нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—1864 гг. займеў мянушку «Вешальнік», аддаў дырэктыву: «В Северо-Западном крае так называемую мову необходимо свести на ничто, потому что если этого не сделать, она постоянно будет инспирировать мысль об отдельном белорусском народе и о праве этого народа на этничную самостоятельность и национально-государственную суверенность, чего допустить нельзя…» Загад выконваўся царскімі «кручкамі», а затым спатрэбіўся і савецкім чыноўнікам, якім хацелася збудаваць

камуністычную імперыю з адзінай мовай, што асабліва не здзіўляе.
Абурае да глыбіні душы тое, што ў адукаваным XXI стагоддзі ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь, дзе ёсць усе магчымасці для адраджэння і развіцця нацыянальнай мовы і культуры, улада працуе нібыта пад дыктоўку і пад наглядам Мураўёва-вешальніка, які ўпэўнена прадракаў: «Что не сделал русский штык, доделает русская школа и русский поп».
Жахліва думаць, што пры татальнай абыякавасці беларусаў, якая назіраецца, гнюснае прароцтва можа спраўдзіцца!
На постсавецкім абсягу мацнее цяга да «прыгожага жыцця», нацэленасць на «грамадства спажывання». Адкрытым тэкстам аб'яўляецца, што галоўны жыццёвы арыенцір — гэта грошы. Дух новага часу абмаляваў прадстаўнік расійскага шоў-бізнесу Ф. Кіркораў: «Все покупается, все продается!» Гэтым пастулатам узброіліся не толькі спевакі, але і кіраўнікі дзяржаў, чыноўнікі, парламентарыі, супрацоўнікі судоў, праваахоўных органаў, спецслужбаў, СМІ.
У спажывецкай мітусні, якая апанавала начальнікаў, а ўслед за імі і ўсё насельніцтва, прападае разумная стратэгічная перспектыва развіцця беларускай нацыі. Па гэтай важнейшай праблеме ў мяне, як грамадзяніна Беларусі, прынцыповае разыходжанне з курсам вертыкалі. Ёй патрэбна захаванне сваёй улады, як мага даўжэйшае знаходжанне ля поўнага карыта даброт. Меркантыльныя мэты невялікай купкі цынічных і нахабных людзей сталі бар'ерам на шляху нашага грамадства да лепшага жыцця. Пра такіх кіраўнікоў трапна напісаў выдатны рускі філосаф М. Бярдзяеў у «Философии неравенства»: «Для вас культура — лишь средство вашей политики и экономики, лишь орудие благоденствия /…/ И сколько бы вы ни пробовали украшать себя культурой, слишком видно и ясно, что никаких ценностей культуры для вас не существует».
А я ўсё жыццё заклапочаны зберажэннем на планеце майго народа, якое немагчыма без умацавання нацыянальнай культуры, без беларускамоўных дзіцячых садкоў, школ і ВНУ…
Нядаўна студэнты выйшлі на плошчу Якуба Коласа ў Мінску з лозунгам: «Хочам вучыцца па-беларуску!». Дык каго падтрымліваць? Любімую мной свядомую моладзь, якая не баіцца «чорнай арды» амапаўцаў і выступае ў абарону мовы нацыі, або дзяржаўных хлусаў з самага верху і да нізу, якія, дыскрымінуючы яе, спасылаюцца на «жаданне бацькоў»?
Акрамя таго, давайце глянем на Расію, якая займаецца прасоўваннем рускай мовы па свеце, на Украіну, дзе бурліць змаганне за роднае слова, бо не хоча наша мілая суседка стаць калоніяй, а таму на першы план выходзіць народны кліч: «Нас яднае мова!»
Свята беларускага пісьменства павінна не «два дні панаваць» у нейкім кутку краіны, каб затым знікнуць, а стаць звыклай будзённасцю.
Мове карэннага народа сорамна выступаць у ролі «ряженой», як гэта адбываецца на «Дажынках», «Славянскім базары», днях гарадоў і пасёлкаў. Ёй трэба быць паўнапраўнай гаспадыняй у сваёй хаце. Без рашэння гэтай праблемы ўсе размовы пра любоў да Беларусі — злачынная дэмагогія.
**Артыкул:** *Сяргей Законнікаў*



# Аптымізм Жыгамонта

## *"Новыя падарожжы дылетанта": розгалас за мяжой, а ў нас — клопаты?*



Юрый Жыгамонт — аўтар і вядучы адной з самых рэйтынгавых праграм беларускага тэлебачання "Новыя падарожжы дылетанта".
Напярэдадні чарговай творчай сустрэчы артыста з гледачамі з ім гутарыў карэспандэнт

“К”. Гаворка, як можна здагадацца, ішла ў асноўным пра згаданы тэлепраект. Спадар Жыгамонт адразу папярэдзіў, што адказы на традыцыйныя пытанні, кшталту “Як ствараўся вобраз “дылетанта”?”, лепш шукаць у Сеціве на ягоным сайце. Прыняўшы гэта да ведама, мы адразу засяродзіліся на сацыяльным рэзанансе праграмы.

***— Спадар Юрый, ці спрыяе праграма пазітыўным зменам у тых мясцінах, пра якія вы расказалі па тэлебачанні?***

— Я толькі раблю сваю працу, а не аналізую яе вынікі — гэтым мусяць займацца іншыя. Аднак я маю падставы меркаваць, што пасля выхаду ў эфір “Падарожжаў…”, у мясцінах, якім прысвечана праграма, нічога не змяняецца, прынамсі, помнікі, пра якія мы гаворым, у тым жа стане…

***— Можа, пабачыўшы сябе і свае вёскі ды мястэчкі на экране, людзі пачынаюць больш ганарыцца малой радзімай?***

— Яны ставяцца да гэтага спакойна. Мне падаецца, што ў многіх краях жыхароў і асабліва — адказных асоб больш задаволіла б, каб пра занядбаныя храмы ды палацы ў іх мясцінах ніхто не ведаў. Няхай бы, маўляў, тыя будынкі ціха сабе разбураліся ды расцягваліся на цэглу. Ад нашых “Падарожжаў…” мясцовым людзям адны толькі дадатковыя клопаты: калі руіны па тэлебачанні пакажуць, даводзіцца вакол іх хаця б траву выкошваць…

***— А як ставяцца канкрэтна да вас, калі вы прыязджаеце ў глыбінку са здымачнай групай?***

— Бывае, што пазнаюць, дык вітаюцца…

***— А не сумна справу рабіць, калі ведаеш, што выніку няма?***

— Скажу так: я раблю гэта для ўласнай асалоды. Каму ж гэта могуць не падабацца вандроўкі! Да таго ж, я заўжды любіў гісторыю, краязнаўства. Мяркую, мне вельмі пашчасціла, што я маю справу, якая мне даспадобы. Гэта неяк кампенсуе, ураўнаважвае страты ды няўдачы, якія я меў у жыцці.

***— Вы — артыст. А ў гэтай праграме вы фактычна яшчэ і рэжысёр. Ці праўда, што артыст імкнецца стаць рэжысёрам, каб рабіць сваё, а не падпарадкоўвацца іншым?***

— Гэта перанос на мастацтва вайсковага выслоўя пра тое, што кожны салдат марыць стаць генералам. Як я служыў у войску, дык, прызнаюся, чакаў дэмбеля… Я найперш — артыст. Яшчэ летась іграў у Тэатры юнага гледача. Мне ўсё больш выпадалі ролі зайцоў ды іншых маленькіх істот. Казалі, што на мяне трэба шмат усяго надзець, каб я выглядаў, як заяц (Юрый Жыгамонт ростам недзе метр дзевяноста. — П.В.). Пайшоў я з тэатра. Зараз праграма “Новыя падарожжы дылетанта” — мой асноўны занятак і адзіны заробак. Хаця, канешне ж, хацелася б сыграць якога-небудзь вусеня і атрымаць Нацыянальную тэатральную прэмію за лепшую мужчынскую ролю (Усміхаецца.).

***— Як вы плануеце гэтыя тэлевандроўкі? Бераце карту Беларусі і на ёй пазначаеце паслядоўнасць маршрутаў?***

— Падобна на тое. Але трэба зыходзіць з таго, што “Падарожжы…” — тэлевізійны праект. Тут словамі не абыдзешся — трэба нешта паказваць. Таму мы часцей наведваемся ў заходнюю частку Беларусі, дзе памятак мінуўшчыны захавалася больш. На ўсходзе ж краіны шмат гістарычных помнікаў страчана. Тым больш крыўдна, што гэтыя страты прыпадаюць на мірны час. Напрыклад, Віцебск у часы Савецкага Саюза быў першым у справе барацьбы з рэлігіяй. А выяўлялася гэта ў знішчэнні храмаў і палацаў, увогуле ўсёй дакастрычніцкай гісторыі і культуры…

***— У праграме вы распавядаеце, у асноўным, пра гісторыю ды культуру Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Вам не хацелася пашырыць “Падарожжы…”: спачатку — на памежныя раёны нашых суседзяў, а потым і ўвогуле на сумежныя дзяржавы, якія з'яўляюцца гістарычнымі спадкаемцамі ВКЛ і Рэчы Паспалітай?***

— Гэта добрая перспектыва — выйсці за межы Беларусі, павандраваць па Смаленшчыне, Украіне, Літве, Польшчы… Канешне, хацелася б рэалізаваць такі праект.

***— “Падарожжы…” прадстаўляюць нашу краіну ў кантэксце еўрапейскай гісторыі і культуры. Вы свядома ставілі сабе такую мэту?***

— Праграма скіравана найперш на Беларусь. Аднак я ведаю, што “Беларусь ТБ” транслюе яе на замежжа. Ведаю, і водгукі ёсць. Прынамсі, з Расіі ды Украіны, дзе нямала беларусаў, з Крыма, Алтая і Сібіры. Дарэчы, гэта парадаксальна: у самой Беларусі, у тых мясцінах, пра якія мы апавядаем, да

"Падарожжаў…" ставяцца абыякава, а за мяжой — передача хвалюе гледачоў.

***— Гэты розгалас, мяркую, мусіць дадаваць вам аптымізму?***

— А я ўвогуле аптыміст. Лічу, што ўсё кепскае — у мінулым, а ўсё лепшае — наперадзе. А як жа інакш жыць?..

**Артыкул:** *Пётра Васілеўскі*



# Культура

## Пружанскі касцёл

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў шмат зроблена ў справе адраджэння гістарычнай памяці беларусаў. Навукоўцы і аматары пастаянна адкрываюць факты, якія дазваляюць па-новаму паглядзець на нашу мінуўшчыну. Не застаецца ў баку ад гэтай справы і музей-сядзіба "Пружанскі палацык", дзе захоўваецца шмат цікавых рэчаў, якія тычацца мінулага і сучаснасці роднага краю. Сярод іх асаблівае месца займае папка з арыгінальнымі дакументамі, прысвечанымі гісторыі рымска-каталіцкага касцёла ў Пружанах. Усяго яна налічвае 20 дакументаў, якія асвятляюць невядомыя старонкі з мінулага касцёла Узнясення Святой Дзевы Марыі. Выяўленне падобных экспанатаў тым больш актуальна, што ў 2011 г. Было адзначана 130-годдзе з пачатку будаўніцтва ўзгаданага храма.

Першы драўляны каталіцкі храм у Пружанах мог існаваць на мяжы XV-XVI ст., аб чым сустракаюцца ўскосныя звесткі, а ў 1522 г. свае дзверы адчыніў мураваны касцёл у гонар Св.Жыгімонта і Св.Вацлава. Гэты храм некалькі разоў сур'ёзна пацярпеў падчас войнаў XVI – пачатку XIX ст.ст., а ў 1845г. быў адабраны на патрэбы рускага ваеннага ведамства. Пад 1851 г. ёсць упамінанне аб драўляным касцёле ў Пружанах.

Пры падтрымцы пружанскага шляхціца В. Швыкоўскага на вул. Кобрынскай (цяперашняя Савецкая) у 1857 г. пачалося будаўніцтва новага мураванага касцёла.




***Пружанскі касцёл у 1915-18 гг.***

Аднак завяршыць пачатую справу ўладальнік палацыка не паспеў – у 1863 г. разгарэлася паўстанне К. Каліноўскага. Нацыянальнае выступленне падтрымала значная частка мясцовага шляхецтва, а таксама пружанскі ксёндз В. Гансеўскі, які з 1859 г. служыў у храме. Менавіта разгром паўстання і новы віток палітыкі русіфікацыі сталі прычынай перадачы недабудаванага храма праваслаўнаму ведамству ў 1866 г.: замест запланаванага касцёла была адчынена Прачысценская царква (сёння на яе месцы "Універмаг").

Але ўжо 21 снежня 1878 г. царскія ўлады зацвердзілі праект будаўніцтва новага касцёла Святога Міхаіла ў Пружанах і выдзелілі на гэта 22 тысячы рублёў. Дазвол меў абмежаванне: касцёл не павінен быць вышэй за іншыя збудаванні горада. Менавіта таму архітэктар адмовіўся ад ўзвядзення вежаў, скляпенні былі выведзены пад самы дах, каб максімальна выкарыстаць аб'ём будынка. Асноўны архітэктурны акцэнт быў зроблены на галоўны фасад, які атрымаў строгую сіметрычную двух'ярусную кампазіцыю, характэрную для неакласіцызму. Храм узводзіўся на зямлі (1 дзесяціна 1856 кв. сажэняў), выкупленай прыхаджанамі-католікамі ў 1881 г. у памешчыка Быліны.

19 верасня 1883 г. рымска-каталіцкі храм прыняў вернікаў. Праз год адбыліся ўрачыстасці і асвячэнне касцёла ў гонар Узнясення Святой Дзевы Марыі, Святой Ганны і Святога Караля Барталамея. Мерапрыемствы правёў святар Караль Грынявіцкі.

Каля касцёла была таксама ўзведзена амаль 8-мятровая двухпавярховая званіца, алтар якой упрыгожвалі старыя іконы: "Маці Божая

Вострабрамская” (дрэва, алей), “Маці Божая” з манастыра ў Бярозе Картузскай, “Маці Божая Ружанцовая”, “Святы Антоній”, “Святы Міхаіл” і інш. У 1886 г. у 10 метрах ад храма для ксяндза-пробашча быў пабудаваны драўляны 7-пакаёвы дом-плябанія, крыты гонтай.

Вельмі мала гісторыя нам захавала імёнаў ксяндзоў касцела Узнясення Святой Дзевы Марыі. Акрамя К. Грынявіцкага, у XIX ст. ёсць згадка пра Зігмунда Цасельскага, які служыў у 1889 – 1892г.г. У больш ранні перыяд упамінаюцца Матэуш Путвіньскі (1835 – 1836), Антоній Малеўскі (1859 – 1860), Аляксандр Грынявіцкі (1863), Антоній Гадзіньскі (1871 – 1872).

Храм вельмі пацярпеў у час першай сусветнай вайны (1914-1918): быў пашкоджаны будынак касцёла, амаль знішчана арганная частка.

Сур’езныя аднаўленча-будаўнічыя работы ў касцёле распачаліся ў 1929-1930 г.г., калі святаром быў Браніслаў Келбас. Пры матэрыяльнай падтрымцы шляхціцаў Пружанскага павета Дзяконскага і Марачэўскага ўдалося аднавіць арганнае памяшканне. Храм поўнасцю адрамантавалі: патынкавалі, пафарбавалі, замянілі дах і вокны, падлогу і ганкі вымуравалі, правялі электраасвятленне. Прыкладна ў гэты час мог пачацца роспіс касцёльнай столі. З мэтай захавання храмавага фундамента старыя дрэвы, якія раслі на двары па вул.Пацэвіча (суч.Савецкая), былі выкарчаваны і пасаджана 30 маладых ліпак. Перабудавалі і плябанію, пры якой з’явілася вялікае дадатковае памяшканне для парафіян. Храмавыя будынкі былі абмежаваны ад вуліцы плотам з літой агароджай, варотамі і брамкамі фірмы графа Ледахоўскага.

Касцёлу належала зямля каля вул.Хватка (суч.Леніна) – фальварак Плябанцы, дзе былі дом (разбураны ў 1915 г.), сад, агарод. Фальварак быў выдзелены рымска-каталіцкаму касцёлу люстрацыйнай (дзяржаўнай інвентарнай) камісіяй яшчэ ў 1869 г. Пры С.Келбасе на гэтай зямлі пабудавалі шэраг гаспадарчых памяшканняў, крытых саломай. Плошча фальварка складала каля 38 гектараў (2 га займаў агарод, 24 га – ворыва і інш.). Поўны абмер уладання праводзіўся ў 1912 г. землямерам Хацімскім і ў пачатку 30-х г.г. – Яромай. Акрамя гэтага, да касцёла былі прыпісаны чыншавыя плошчы з дамамі на вул. Шарашоўскай, Юрыдыцы (раён сучаснага “Універмага”), Разкі (прыкладна раён канторы райспажыўтаварыства).

Пружанскія ксяндзы абслугоўвалі таксама мураваныя капліцы на гарадскіх могілках (з XIX ст. існавалі яшчэ гаспадарчыя будынкі і вартоўня), у маёнтках Букрабаўшчына шляхціца Ляўковіча і Куплін Марачэўскіх. Да 1915 г. існавала капліца Крашэўскіх у Доўгім, якую знішчылі казакі пры адступленні расійскай арміі ў час першай сусветнай вайны.

Паводле падрабязнага інвентару 1933 г., які быў зроблены пры ксяндзу Анджэю Ніве, касцёл меў багатыя ўпрыгожанні. На Вялікім алтары знаходзіўся абраз “Узнясенне Маці Божай” (палатно, алей), створаны ў Варшаве ў майстэрні Герсона. За іконай у нішы – Распяцце Хрыста і абраз “Бог-Айцец”. У правым баку алтарнай часткі месціліся іконы: “Святы Антоній Падзеўскі”, “Сэрца Ісуса Хрыста”, “Святая Тэрэза”, а ў левай — “Уваскрэсенне Хрыстова”, “Святы Станіслаў Костка”. Усе выявы былі ўпрыгожаны залачонымі рамкамі. Каля алтара знаходзіліся скульптуры Св.Пятра і Св.Паўла, захоўваліся рэліквіі Св.Казіміра. Разам са шматлікімі іконамі, адзеннем, сцягамі, культавымі прадметамі, мэбляй у храме захоўваліся каштоўныя дакументы – метрычныя і шлюбныя кнігі, пачынаючы з 1663 г. Гонарам касцёла быў 10-галосны арган.



***1930-я гады, адзінае фота, на якім справа бачна званіца.***

Цяжкія часы чакалі храм у час Другой сусветнай вайны. З 1939 г. ксёндзам у касцёле Узнясення Святой Дзевы Марыі служыў Казімір Свёнтак. У красавіку 1941 г. ён быў арыштаваны органамі НКУС і два месяцы прасядзеў у Брэсцкай турме (быў прыгавораны да расстрэлу). Калі пачалася Вялікая Айчынная

вайна, усе арыштанты былі вызвалены, і Свёнтак пешшу вярнуўся ў Пружаны, дзе працягнуў служыць у храме. Пасля вызвалення горада ад фашыстаў будучы кардынал ізноў стаў ахвярай рэпрэсіўнай сталінскай машыны: 17 снежня 1944 г. яго арыштавалі і асудзілі на 10-гадовае зняволенне.

Асаблівую старонку гісторыі касцёла складаюць пасляваенныя падзеі. Адрадзіць іх падрабязную храналогію дазволілі арыгінальныя дакументы, якія захоўваюцца ў фондах музея-сядзібы "Пружанскі палацык".

26 красавіка 1946 г. прадстаўнікі раённага партыйнага кіраўніцтва разам з польскімі чыноўнікамі і ксёндзам-канонікам касцёла Антоніем Ройкам, які ад'язджаў у Польшчу, склалі акт аб пакіданні ўсёй храмавай маёмасці, згодна з інвентарнымі кнігамі. Выключэнне складалі рэчы, якія святар мог узяць з сабой: "5 орнатов, 3 капы-ризы, 2 чаши, 1 монстраций, 1 фисгармонь, 1 металический крест, 2 альбы, 3 метрические книги" і інш. Адказнасць за захаванне храмавага памяшкання і яго маёмасці прынялі на сябе прадстаўнікі мясцовага касцёльнага камітэта на чале з І.Каралько.



*Казімір Свёнтак падчас наведвання пружанскага касцёла, 2009 г.*

Актам ад 2 сакавіка 1948 г. указвалася, што, згодна з рашэннем выканкама Пружанскага райсавета ад 21 лютага 1948 г. №142 "О закрытии костела в гор.Пружаны", будынкі храма і званіцы апячатваліся, а маёмасць захоўвалася паводле вопісу ад 5 студзеня 1948г. На той час налічвалася 37 адзінак рэлігійнага адзення, 25 ікон, мэбля, сурвэткі, дываны і інш. Усе рэчы былі складзены ў вартоўні на каталіцкіх могілках па вул.Горка.

Паводле ліста ад 24 жніўня 1950 г. №1103 Брэсцкага аблвыканкама, памяшканне касцёла ў Пружанах аддавалася пад лекцыйную залу і стваралася камісія для зверкі наяўнасці апісанай маёмасці і вызначэння яе кошту. Камісія павінна была да 4 кастрычніка 1950 г. завяршыць работу і ўнесці прапановы па выкарыстанні выяўленых прадметаў. Было зроблена яшчэ некалькі вопісаў, і адказнасць за часовае захаванне 298 прадметаў прыняў на сябе загадчык райаддзела культасветустаноў А.Якуш, а потым дырэктар РДК В.Шабанаў.

Для большай часткі храмавых рэчаў кошт так і не быў вызначаны. Напрыклад, грыфы "утиль» атрымалі падсвечнікі і крыжы, а "не ценятся" – рэлігійнае адзенне, абразы, сцягі, званы, келіхі, спавядальнікі. Размеркаванне храмавага начыння адбывалася паводле рашэння выканкама Пружанскага райсавета дэпутатаў працоўных ад 19 красавіка 1951г., падпісанага старшынёй А.Р.Свергуном. У дакуменце гаварылася: "Передать бесплатно Пружанскому Дому Соцкультуры для создания театральных кастюмов… капы, орнаты, знамена, чехлы, пояса. …Все остальные предметы, указанные в описи, использовать при ремонте Дома Соцкультуры, металические и другие негодные предметы сдать в утиль."

У дакуменце таксама вызначаўся лёс іншых прадметаў. Напрыклад, "карету рессорную без колес" бясплатна перадавалі калгасу імя XIX партз'езда КП(б)Б. Арган патрабавалася разабраць і захоўваць пры Доме культуры. Іншая маёмасць прадавалася. У 1952 г. Дом культуры купіў сабе шафу, канапу, крэслы, зэдлікі, люстэркі, рукамыйнік, люстру, насценны гадзіннік, 6 цынкавых труб і фісгармонію. Кантора Ваенгандлю набыла 3 шафы, стол, лаўку, куфар; вайсковая часць №74582 — 2 шафы і 2 пліты пад мармур, райваенкамат – 2 дываны, а Пружанскі дзіцячы дом – 1 дыван. У 1953 г. крыж са шклом, 2 даразахавальніцы, 6 келіхаў, 73 паясы, 29 арнатаў і 10 капаў, 6 вулічных ліхтароў і інш. бязвыплатна прыняў Брэсцкі тэатр імя ЛКСМБ.

Складаная сітуацыя склалася з арганам. Пружанскі райфінаддзел неаднаразова на працягу 1951-53 г. звяртаўся ў вышэйшыя інстанцыі з просьбай даць указанні аб кошце і парадку рэалізацыі аргана, таму што "в г.Пружаны его реализовать невозможно, …он никому не нужен", а таксама "куда девать орган, ибо хранить его негде». У выніку 12 мая 1953 г. быў атрыманы ліст з Міністэрства

фінансаў БССР за подпісам намесніка міністра П.Камчатава: пытанне аб вырашэнні лёсу інструмента ўскладвалася на райвыканкам. 29 лістапада 1954 г. парткамісія склала акт, у якім гаварылася: "…музинструмент «орган» не может быть использован где-либо в культпросветучреждениях республики (т.к. в нем нет нужды), и находится в разобранном виде. …Его металлические детали окислились, а деревянные – поточены червями и пришли в негодность. …Имеющиеся металлические части органа сдать по накладной в заготконторе «Вторцветмет», … деревянные в количестве 1,5м3 заприходовать в РДК как дрова и израсходовать для отопления здания».
Такім чынам, пружанскі касцёл раздзяліў лёс многіх храмаў у былым СССР, якія, калі не былі знішчаны, сталі дамамі культуры, клубамі, складамі, сховішчамі сельгастэхнікі і г.д.
Ужо ў перыяд "перабудовы" рэлігійная палітыка была перагледжана, а з пачаткам суверэннага існавання Беларусі склаліся ўмовы для адраджэння апаганеных святынь. З 1991 г. у Пружанах сталі рабіцца захады па вяртанні касцёльнага будынка вернікам.
Вялікая роля ў гэтым належала ксяндзу Эдварду Лоеку, разам з якім вернікі сталі маліцца на прыступках Дома культуры. Такая пазіцыя святара і прыхаджан дала плён: 8 снежня 1991 г. адбылося першае афіцыйнае набажэнства – католікам дазволілі маліцца ў дыскатэчнай зале, калі там не адбываліся культурныя мерапрыемствы. А 1 лютага 1993 г. храм быў канчаткова перададзены рыма-католікам – пачалася рэстаўрацыя.
Вызначальны ўклад у аднаўленне касцёла унёс прафесар Інстытута кансервацыі помнікаў Кракаўскай політэхнікі Віктар Зін (памёр восенню 2011 г.). Ён разам з супрацоўнікамі Інстытута бясплатна зрабіў поўную інвентарызацыю аб'екта і распрацаваў дакументацыю па рэканструкцыі храма. Экспедыцыя В.Зіна на столі касцёла пад пяццю пластамі тынкоўкі, пабелу і фарбы выявіла цікавыя роспісы, якія зараз упрыгожваюць храм.
Датай новага нараджэння касцёла Узнясення Святой Дзевы Марыі можна лічыць 1998 г. Акт аб яго рэкансэкрацыі (новаасвячэнні) ад 14 жніўня на беларускай і польскай мовах беражліва захоўваецца ў храмавым архіве. Ва ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця касцёла ўдзельнічаў чалавек, які калісьці пакідаў святыню пад прыцэламі зброі, – кардынал К.Свёнтак. Гісторыя касцёла ў Пружанах, як і многіх праваслаўных, каталіцкіх, іудзейскіх храмаў у Беларусі, насычана слаўнымі і трагічнымі старонкамі. Яна паказвае, што сапраўдныя каштоўнасці: высокая духоўнасць і талерантнасць, якія спрадвеку вызначалі характар беларусаў, — знішчыць немагчыма.
**Артыкул:** *Наталля Пракаповіч, галоўны захавальнік фондаў музея-сядзібы "Пружанскі палацык"*



# Этнічныя працэсы на беларускіх землях

У канцы XIII- XVI ст. пачынаецца фарміраванне беларускай народнасці - гістарычна склаўшайся на тэрыторыі сучаснай Беларусі і суседніх усходніх і паўночных землях устойлівай супольнасці людзей, якая характарызуецца асаблівасцямі мовы, побыту, культуры, рыс псіхікі і самасвядомасці, што перадаюцца з пакалення у пакаленне. Працэс фарміравання гэтых этнічных прыкмет працягваўся амаль чатыры стагоддзі і праходзіў пад уздзеяннем сацыяльна-эканамічных, палітычных, геаграфічных, царкоўна-рэлігійных і іншых фактараў.
Умовы для фарміравання беларускай народнасці склаліся з сярэдзіны XIII ст. Аб'яднанне на працягу XIII - XVI стст. раздробленых зямель у складзе Вялікага Княства Літоўскага, падначаленне адзінай вярхоўнай уладзе прывяло да тэрытарыяльнай кансалідацыі і паслужыла штуршком для складвання этнічнай тэрыторыі беларусаў - тэрыторыі кампактнага рассялення народа, з якой звязаны яго фарміраванне і развіццё. Цэнтралізацыя дзяржавы (арганізацыя кіравання, ліквідацыя рэшткаў раздробленасці, уніфікацыя адміністрацыйнага падзелу,

увядзенне адзінага заканадаўства, сімволікі) спрыяла больш цеснаму палітычнаму аб'яднанню беларускіх зямель і актыўнаму функцыяніраванню асноўнага для працэсу этнаўтварэння сацыяльна-эканамічнага фактару. З узмацненнем гандлёва-эканамічных сувязяў у межах Княства, складваннем агульнадзяржаўнай гаспадаркі, развіццём таварна-грашовых адносін, ростам гарадоў, пэўнай уніфікацыяй вагавых адзінак і грашовай сістэмы пераадольвалася лакальная замкнёнасць, пашыраліся ўнутрытэрытарыяльныя кантакты, нівеліраваліся некаторыя гаспадарчыя і бытавыя адрозненні, адбывалася моўная інтэграцыя. Прагрэс у вытворчасці ўздзейнічаў на фарміраванне саслоўна-класавай структуры этнасу - да сярэдзіны XVI ст. аформіліся шляхецкае, мяшчанскае, сялянскае саслоўі.



Палітычны і эканамічны фактары з'яўляліся "фонам", на якім адбывалася фарміраванне і развіццё беларускага этнасу. Палітычная і сацыяльна-эканамічная інтэграцыя ў межах адной дзяржавы стварыла амаль што аднолькавыя ўмовы для этнакультурнага развіцця розных зямель, прывяла да нівеліроўкі мясцовых асаблівасцяў. У першую чаргу і хутчэй моўная і культурная нівеліроўка адбывалася ў гарадах, асабліва ў найшльш значных. Там мацней, чым у сельскай мясцовасці, адчуваліся сувязі паміж асобнымі часткамі краіны.

Этнічная тэрыторыя Беларусі ахапіла пераважна ўсход-неславянскія землі, на якіх жылі нашчадкі крывічоў (Віцебшчына, Смаленшчына, Віленшчына, Гарадзеншчына, Невельшчына), дрыгавічоў (цэнтральная Беларусь, Палессе, Берасцейшчына), радзімічаў (Магілёўшчына, Гомельшчына, заходняя Браншчына). Гэтыя блізкія этнічныя аб'яднанні, якія ўвабралі шэраг балцкіх элементаў, але ў якіх пераважалі славянскія рысы, з'яўляюцца нашымі продкамі. Этнічная тэрыторыя кожнага народа вызначаецца ўстойлівасцю на працягу стагоддзяў. Яшчэ ў пачатку XX ст. беларусы насялялі Смаленшчыну, сумежжа Браншчыны, Чарнігаўшчыны, Пскоўшчыны, Латгаліі, Падляшша і Віленскі край. У выніку наступных штучных падзелаў гэтыя землі апынуліся паза палітычнымі межамі Беларусі.

Існаваўшая гістарычная перспектыва спалучэння беларусаў у адзіны этнас з украінцамі, з якімі іх аб'дноўвала агульная назва "Русь", агульная мова і вера, блізкая культура, не была рэалізавана. Гэта звязана з далучэннем украінскіх зямель да Польскай дзяржавы і з'яўленнем на іх уласнага палітычнага і культурнага цэнтра - казацтва. Да каталіцкага хрышчэння Літвы зусім рэальным было фарміраванне агульнай беларуска-літоўскай этнічнай супольнасці, але з канца XIV ст. нацыянальна-культурнае развіццё гэтых народаў пайшло рознымі шляхамі.

У XIII - XVI стст. на этнічнай тэрыторыі Беларусі фарміруецца новая самастойная мова са сваімі спецыфічнымі фанетычнымі і сінтаксічнымі асаблівасцямі і лексічным складам, якая карэнным чынам адрозніваецца ад старажыт-наўсходнеславянскай, рускай і ўкраінскай моў. У галіне фанетыкі яе асаблівасцямі сталі "дзеканне", "цеканне", "аканне", "яканне", цвёрды гук "р", фрыкатыўнае вымаўленне "г", у сінтаксісе - выкарыстанне слоў "каб', "калі", часціц "ці", "чы" і інш. Пад уплывам новых з'яў у жыцці і запазычанняў узнікла новая лексіка з багатай тэрміналогіяй - назвамі феадальных павіннасцяў, службовых асоб, сельскагаспадарчымі, рамеснымі, гандлёвымі тэрмінамі (чынш, цягла, гвалты, талака, сенажаць, нарогі, борці, збожжа, цыбуля, каваль, чабатар, рымар, шынкар, мыта,

перакупні і інш.). Характэрныя рысы старабеларускай мовы замацоўваюцца ў помніках пісьменнасці XV - XVI стст.

Развіццю беларускай мовы спрыяла тое, што ў XIV - XVII стст. яна была дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага. На ёй працавалі судовыя ўстановы, княжацкая канцылярыя, магістраты, пісаліся законы, летапісы, публіцыстычныя творы і мемуары. Яе ўжыванне ў афіцыйным справаводстве оыло заканадаўча замацавана Статутам 1588 г. Ф.Скарына ўвёў родную мову ў Біблію і гэтым самым паказаў яе раўнапраўе з класічнымі кананічнымі мовамі - лацінскай, грэчаскай, сгаражытнаяўрэйскай. Пранікненню беларускай мовы ў канфесійную літаратуру спрыяла Рэфармацыя. Яе ўнармаванню садзейнічала ўніяцкая царква, якая выкарыстоўвала мову карэннага этнасу нароўні з царкоўнаславянскай і лацінскай.

Дасягауўшы значнага развіцця, беларуская мова з другой паловы XVI ст. паступова пачала здаваць свае пазіцыі пад націскам польскай. У сувязі з перайманнем шляхтай чужой мовы ў сітуацыі двухмоўя наша мова пакрысе выцясняецца з ужытку. Рашэннем Сойма 1696 г. на тэрыторыі Княства сгатус дзяржаўнай быў замацаваны за польскай мовай.

У перыяд фарміравання беларускай народнасці развіліся і замацаваліся уласцівыя для яе этнічнай тэрыторыі спецыфічныя рысы матэрыяльнай і духоўнай культуры. Сацыяльна-эканамічныя ўмовы развіцця, кліматычныя асаблівасці, старажытныя традыцыі парадзілі характэрныя для Беларусі тыпы пасяленняў (мястэчкі, фальваркі, засценкі, ваколіцы) і жылля - зрубная хата з двума памяшканнямі (хата і сенцы). Распаўсюджваюцца аднолькавыя тыпы прылад працы (саха, драўляная барана), праяўляюцца асаблівасці ў гаспадарчых занятках. Устанаўліваецца характэрнае толькі для беларускай тэрыторыі народнае адзенне, складваецца своеасаблівая народная кухня.

Такім чынам, на працягу другой паловы XIII - XVI ст. на акрэсленай этнічнай тэрыторыі сфарміраваўся своеасаблівы агульнабеларускі комплекс традыцыйнай культуры і сісгэмы мовы, якія сведчылі пра нараджэнне новага этнасу.



Адным з галоўных вынікаў аб'яднальных этнічных працэсаў і асноўным паказчыкам ступені кансалідаванасці народа выступае этнічная самасвядомасць - усведамленне людзьмі прыналежнасці да свайго народа, яго адметнасці. Яна ўзнікла найперш у асяроддзі прагрэсіўна настроеных слаёў гараджан, шляхты, духавенсгва і праявілася ў любві да роднага края, народа, культуры, у зацікаўленасці іх мінулым, сучасным і будучым, у клопаце аб уратаванні нацыянальных формаў духоўнай культуры перад пагрозай дэнацыяналізацыі. У XVI ст., да 1596 г., этнічная самасвядомасць арыентавалася пераважна на свецкія формы. Надзвычай яскрава патрыятызм выявіўся ў беларускіх летапісах, літаратуры, грамадскай думцы. Думка аб нацыянальнай годнасці, гонары за сваю радзіму, народ, культуру ўпершыню была абгрунтавана ў творах М.Гусоўскага, Ф.Скарыны, С.Буднага, В.Цяпінскага. Рэфармацыя садзейнічала абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці,

цікавасці да нацыянальнай мовы. У 70 - 80-я гг. многія яе дзеячы праявілі вялікі нацыянальна-патрыятычны энтузіязм.
Істотныя зрухі ў сацыяльна-палітычнай і культурна-рэлігійнай сітуацыі на Беларусі на рубяжы XVI - XVII стст. нарадзілі іншую форму нацыянальнай самасвядомасці, у якой дамінуючую ролю адыгрываў рэлігійны кампанент. Яе носьбітамі былі С.Зізаній, М.Сматрыцкі, А.Філіповіч і іншыя барацьбіты супраць ваяўнічага каталіцызму і ўніі, апантаныя ідэяй рэлігійнай свабоды для праваслаўных. Уніяцкія дзеячы баранілі таксама нацыянальна-культурныя каштоўнасці беларускага народа (мову, абраднасць, святы), імкнучыся спалучыць іх з заходнееўрапейскімі. Нацыянальная самасвядомасць беларусаў у далейшым падвяргалася дэфармацыі пад уздзеяннем спачатку паланізатарскіх, а потым русіфікатарскіх тэндэнцый.
Знешняй формай праяўлення самасвядомасці з'яўляецца назва народа - этнонім. У XIII - XVI стст. у дачыненні да насельніцтва Беларусі ўжываліся розныя этнонімы. Да XVII ст. абагульняючай для праваслаўнага насельніцтва Беларусі, Украіны, Масковіі і часткова Літвы, Польшчы, латгаліі з яўлялася назва "Русь", "рускія", "русіны". Хаця ў іх грамадскай свядомасці захоувалася ўяўленне аб асаблівай блізкасці ўсходнеславянскіх народаў, якое замацоўвала праваслаўная царква, насельніцтва Русі Літоўскай і Русі Маскоўскай лічыла менавіта сябе "сапраўднай" Руссю, а сваіх суседзяў назьюала "маскавітамі", "маскалямі" ці, адпаведна, "літвой". Беларускія "русіны" ўжо ў XV - XVI стст. адрознівалі сябе ад "маскавітаў" суседняй дзяржавы, называючы іх мову "маскоўскай", а сваю - "рускай". Этнонім "рускія людзі" меў больш стабільную распаўсюджанасць сярод жыхароў усходняй Беларусі і Смаленшчыны. У канцы XVI - XVII ст. ён трансфармаваўся ў назву "беларусцы".
Украінцы, рускія, палякі і іншыя еўрапейскія народы называлі беларусаў "ліцвінамі". У XIV - XV стст. "ліцвінамі" называлі сябе пераважна жыхары заходніх зямель Беларусі і ўсходу Літвы. У XVI і асабліва ў XVII - XVIII сгст. гэта назва распаўсюджваецца амаль на ўвесь беларускі этнас. Такая форма "нацыяльнага" самавызначэння насельніцтва Беларусі (асабліва шляхты) умацоўваецца пасля аб'яднання Вялікага Княсгва Літоўскага з Польскім каралеўствам у Рэч Паспалітую, якое разглядалася палякамі як "аб'яднанне дзвюх нацый у адзіную нацыю". Мясцовыя магнаты і шляхта доўгі час падкрэслівалі, што яны менавіта "ліцвіны", чым выказвалі даволі высокі ўзровень дзяржаўнанацыянальнай самасвядомасці. "Мы і палякі, хоць і брацьця, але зусім адменных звычаяў", - пісаў у канцы XVI ст. канцлер Л.Сапега. Назвы "ліцвіны", "літва", на думку даследчыкаў, былі найбольш абагульняючай формай этнічнай самасвядомасці і самавызначэння беларускага насельніцтва. Яны ўжываліся на нашых тэрыторыях больш пяцісот гадоў, а ў другой палове XIX ст. перамясціліся на паўночны захад і сталі найменнем суседняга балцкага народа і яго зямлі.
Першая згада пра Беларуеь у дачыненні да ўласна беларускіх зямель змяшчаецца ў Іпац'еўскім летапісу і датавана 1305 годам. Гэта найменне спачатку замацавалася за ўсходнебеларускімі землямі (Віцебшчынай, Смаленшчынай, Магілёўшчынай) і толькі ў другой палове XIX ст. распаўсюдзілася на ўсю нашу Бацькаўшчыну.
Тлумачэнняў паходжання і сэнсу назвы "Белая Русь" безліч, але ўсе яны з'яўляюцца толькі здагадкамі. Паходжанне назвы звязваюць то з кліматычна-геаграфічнымі або этнаграфічнымі асаблівасцямі гэтых зямель, то са знешнепалітычнымі ці канфесійнымі фактарамі, то з іх своеасаблівым статусам у складзе Княства.
Згаданыя этнонімы ў залежнасці ад абставін маглі ўжывацца паасобку ці сумесна ("ліцвін рускага роду", "ліцвін беларусец"), але ўсе яны з'яўляліся элементамі этнічнай самасвядомасці беларускага народа.
Пастулова складваўся і асобы беларускі менталітэт - склад розуму народа, лад яго мыслення, нацыянальны характар, псіхалогія. Ён складваўся пад звон мячоў і залпы гармат ва ўмовах шматсотгадовага процістаяння на нашых землях двух славянскіх цэнтраў - Польскага каралеўства і Маскоўскага царства. Да лепшых маральна-духоўных якасцяў беларусаў адносяцца нацыянальная і рэлігійная талерантнасць, памяркоўнасць, гасціннасць, лагоднасць, мяккасардэчнасць, вынослівасць, шчодрасць, кемлівасць,няпомслівасць,

сумленнасць, добразычлівасць, рахманасць, паэтычнасць душы, працавітасць.




Да адмоўных бакоў беларускага менталітэту можна аднесці пэўныя апатычнасць, нерашучасць, кансерватыўнасць, недаверлівасць, скрытнасць, пакорнасць. Абагульняючы партрэт народа дапаўняюць і такія рысы, як маўклівасць, дамаседства, неагрэсіўнасць, схільнасць да згоды, пошуку кампрамісаў і інш. Можна вызначыць некаторыя асаблівасці беларускай ментальнасці ў параўнанні з нацыянальнымі характарамі іншых народаў Беларусі. Так, ад яўрэяў беларусы адрозніваюцца меншымі энергічнасцю, знаходлівасцю, настойлівасцю, менш развітым уменнем прыстасоўвацца да жыццёвых абставін, большым індывідуалізмам, меншай згуртаванасцю. Беларусы найчасцей не маюць тых лёгкадумства і самахвальства, якія даволі часта ўласцівы палякам, асабліва шляхецкага паходжання. Неразвітае пачуццё помстывы адрознівае іх ад украінцаў.

Менталітэт з'яўляецца ўстойлівай этнічнай прыкметай. Нарадзіўшыся ў выключна складаных умовах, прайшоўшы праз выпрабаванні лёсу, беларусы захавалі непаўторныя рысы свайго нацыянальнага характару, па якіх іх можна пазнаць і сёння.

Аснову беларускай этнічнай супольнасці склала ўсходнеславянскае насельніцтва. Але ў яе фарміраванні прымалі ўдзел іншыя этнічныя групы: заходнеславянскія (палякі), балцкія (прусы, борці, яцвягі, літоўцы, жамойцы, латгалы), цюркскія (татары). Яны аказалі ўплыў на мову, культуру, рэлігію беларускага этнасу. Акрамя таго, на землях Беларусі пражывалі таксама невялікія групы яўрэяў, цыган, караімаў, шатландцаў, французаў, немцаў, рускіх, украінцаў і інш.

Групы палякаў на этнічных беларускіх землях існавалі ўжо ў XII ст. У другой палове XIV ст. яны з'яўляюцца тут у якасці палонных пасля паходаў вялікіх літоўскіх князёў у Полынчу. Прыкметнай міграцыі палякаў на Беларусь у наступныя стагоддзі не было, бо законы Княства забараняла ім займаць тут пасады і набываць зямлю.

Але на беларускіх землях пад уздзеяннем польскага этна-культурнага ўплыву, які ўзмацніўся пасля Люблінскай уніі, прадстаўнікі вышэйшага саслоўя падвяргаліся паланізацыі.

Ад палякаў Княства запазычыла адміністрацыйны падзел на ваяводствы, магдэбургскае права, новы каляндар, у асноўным з Польшчы пранікаў каталіцызм. Польская мова ўзбагаціла беларускую тапанімію і антрапанімію, аказала ўздзеянне на фарміраванне шэрага характэрных асаблівасцяў беларускай мовы.

Даволі хуткі працэс засваення польскай мовы і культуры, які пачынаецца ў 70-я гг. XVI ст., меў спачатку пазітыўны характар, бо дапамагаў знаёмству нашых продкаў з культурнымі і навуковымі дасягненнямі Заходняй Еўропы. Але менавіта адсюль бярэ вытокі той заняпад беларускай мовы і культуры, што адбыўся ў канцы XVII ст. Тады, у XVI ст., не бачылася ніякай небяспекі ад знаёмства перадавых, па-еўрапейску адукаваных беларусаў з лацінскай і польскай мовамі, на якіх яны пісалі свае творы. У гэты пачатковы перыяд паланізацыі польская мова пранікала на беларускія землі нібы сама па сабе, без дапамогі з боку палякаў. Яна ўвозілася ў Княства яго ўраджэнцамі. У гэтым галоўная асаблівасць і карэннае адрозненне паланізацыі пачатковага перыяду, які працягваўся да пачатку XVII ст., ад навязваемай каралеўствам паланізацыі XVII - XVIII стст.

Найбольшыя "поспехі" ў такім самастойным спалячванні зрабілі шляхта і магнаты. Штучная ліквідацыя з ужытку імі беларускай мовы вельмі адмоўна адбілася на далейшым жыцці беларусаў і істотна замарудзіла развіццё нацыянальнай самасвядомасці. Захавальнікам

беларускай мовы і культуры стаў просты народ. Акаталічаны і апалячаны пануючы клас супрацьпаставіў сябе асноўнай масе насельніцтва не толькі ў сацыяльных, але і ў рэлігійных і культурна-этнічных адносінах.
У XIII - XIV стст. на Беларусь перамясцілася частка балтаў (прусаў, борцяў, жамойтаў), цяснімых крыжакамі. У заходніх раёнах беларускай этнічнай тэрыторыі пражывалі яцвягі (да канца XIII ст.) і літоўцы. Іх мова і культура цесна ўзаемадзейнічалі з беларускай. У пачатковы перыяд гісторыі Вялікага Княства Літоўскага назіраецца тэндэнцыя да славянізацыі літоўскіх феадалаў, што аселі на беларускіх землях, і правячай балцкай дынастыі.
З канца XIV ст. на Беларусі пачалі сяліцца татары. Спачатку гэта былі палонныя, захопленыя Гедымінам і Альгердам. Пазней тут знаходзілі прытулак эмігранты з Залатой Арды, пацярпеўшыя там паражэнне ў міжусобнай барацьбе. Першым быў хан Тахтамыш са сваімі прыхільнікамі. Іх надзялялі зямлёй і сялілі на Віленшчыне, Гародзеншчыне і Меншчыне. Агульная колькасць татарскага насельніцтва ў Княстве ў XVI ст. складала каля 40 тыс. чалавек. Татары неслі вайсковую службу, займаліся рамёствамі і перадавалі беларусам навыкі ў конегадоўлі, агародніцтве, гарбарстве, узбагацілі беларускую лексіку. Самі яны ўжо ў пачатку XVI ст. асімляваліся, пераанялі беларускую мову, забыўшы ўласную. Татарскія рэлігійныя кнігі Аль-Кітабы, пісаныя арабскімі літарамі на беларускай мове, з'яўляюцца ўнікальнымі помнікамі старадаўняй беларускай мовы.
У канцы XIV - XVI ст. ідзе масавая міграцыя на Беларусь яўрэяў з краін Заходняй Еўропы, дзе яны цярпелі цяжкі ўціск і вынішчэнне. Першыя іх суполкі ўзніклі ў канцы XIV ст. у Бярэсці і Гародні. З другой паловы XVI ст. яўрэі займаюць прыкметнае месца ў этнічнай структуры насельніцтва Беларусі. Большая частка іх сялілася ў гарадах і мястэчках і займалася рамёствамі, гандлем, дробным прадпрымальніцтам, ліхвярствам. Яны жылі замкнёнымі тэрытарыяльнымі абшчынамі - кагаламі і складалі ў гэты час да 20 % гарадскога насельніцтва.
Першыя групы рускіх мігрантаў на Беларусі з'явіліся ў XV -XVI стст. Сюды ўцякаюць ад праследаванняў апальныя князі і вальнадумцы (А.Курбскі, Ф.Касы, Арцемій і інш.), а з другой паловы XVII ст. ад здзекаў і ўціскаў - дзесяткі тысяч стараабрадцаў, сялян і гараджан. Рускія і ўкраінскія перасяленцы і ўцекачы адносна лёгка "ўпісваліся" ў роднаснае этнічнае асяроддзе і ўжо ў другім - трэцім пакаленні амаль нічым не адрозніваліся ад мясцовых жыхароў.
У сярэдзіне XV ст. на Беларусі з'явіліся цыганы. Тут яны, нягледзячы на некаторыя ганенні, атрымалі прызнанне як добрыя кавалі, ювеліры, каняводы, музыкі, спевакі, танцоры і дрэсіроўшчыкі звяроў, а жанчыны здабывалі славу варажбой і знахарствам. Большасць цыган вяла вандроўны спосаб жыцця. Галоўным месцам збора вандроўных груп была Зэльва. Урад Рэчы Паспалітай беспаспяхова спрабаваў прывучыць іх да аселага жыцця, прымацаваць да зямлі. Цыганы не прыжылісяу вёсцы, а ішлі ў гарады і мястэчкі, дзе звычайна сяліліся на ўскраінах. Аселыя цыганы пражывалі ў мястэчку Мір і займаліся рамёствамі. Цыганы жылі плямёнамі на чале з выбранымі войтамі ці ваяводамі, захоўвалі побытавую спецыфіку і выконвалі абрады як беларускага народа, сярод якога жылі, так і свае традыцыйныя.
Масавыя перасяленні ў Вялікае Княства Літоўскае ў XIV -XVII стст. іншых этнічных груп, якія цярпелі ўціск у сваіх краінах, сведчыць пра нацыянальную і рэлігійную талерантнасць гэтай дзяржавы. Нашчадкі мігрантаў жывуць на Беларусі да нашага часу. Сёння тут налічваецца 112 тыс. яўрэяў, 12 тыс. татараў, 8 тыс. цыганоў.
Такім чынам, перыяд канца XIII - сярэдзіны XVII ст. стаў для беларускай народнасці часам станаўлення, развіцця і ўздыму. Яе паспяховае развіццё абарвала вайна 1654 - 1667 гг, якая стала першай нацыянальнай катастрофай. У наступныя часы ідзе працэс размывання і заняпаду беларускага этнасу, які выразіўся спачатку ў яго масавай паланізацыі, а потым у русіфікацыі.
**Артыкул:** *С. Марозава*



## БССР: ад геаграфічна-адміністрацыйнай фармацыі да беларускай нацыянальнай адзінкі

Аналіз зьместу канстытуцыйных актаў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР) паказвае разьвіцьцё ўсяе савецкае сыстэмы. Нягледзячы на сваю заідэлягізаванасьць, канстытуцыйныя акты БССР зьмяшчаюць сваё трактаваньне гістарычнага шляху беларускага народу і беларускай дзяржаўнасьці. А ўлічваючы той факт, што менавіта з БССР, што існавала на беларускіх землях у розных межах каля 70 гадоў, нарадзілася сучасная беларуская дзяржаўнасьць, канстытуцыйныя акты гэтай дзяржаўнай фармацыі патрабуюць належнай увагі.




У межах гэтага камунікату храналягічна будуць прааналізаваныя наступныя канстытуцыйныя акты –

- Маніфэст аб абвяшчэньні БССР і Канстытуцыя БССР 1919 г.,
- Канстытуцыя БССР 1927 г. і Канстытуцыя БССР 1937 г,
- Канстытуцыя БССР 1978 г.

### *Маніфэст аб абвяшчэньні БССР і Канстытуцыя БССР 1919 г.*

Аб'яўленая 1 студзеня 1919 г. ў Смаленску БССР прыняла сваю Канстытуцыю 3 лютага на Першым Беларускім зьезьдзе Саветаў. Пры далейшым аналізе Маніфэсту і дадзенай Канстытуцыі трэба ўлічваць шэраг гістарычных падзеяў. Па-першае, гэты самы зьезд выказаўся за аб'яднаньне Беларусі і Летувы ў адзіную дзяржаўную фармацыю, праект канстытуцыі якой быў таксама хутка падрыхтаваны, аднак зьбег вайскова-палітычных абставінаў не дазволіў аб'яднанай рэспубліцы аформіцца. Па-другое, калі ў 1920 г. БССР была адноўлена, Другі Беларускі зьезд Саветаў прызнаў Канстытуцыю 1919 г. дзейнай, прыняўшы шэраг дапаўненьняў і паправак. Такім чынам, з фармальнага пункту гледжаньня можна казаць толькі пра адно "абвяшчэньне БССР" у 1919 годзе, у той час, як падзеі 1920 г. можна трактаваць як "аднаўленьне" ўжо створанай фармацыі. Гэта дазваляе нам абмежавацца аналізам толькі Маніфэсту аб абвяшчэньні БССР і Канстытуцыі БССР 1919 г.

Такім чынам, Маніфэст ад 1 студзеня 1919 г. зьвяртаецца да "таварышаў і братоў рабочых, бедных сялянаў і чырвонаармейцаў Беларусі". Адпаведна характэрызуецца і сутнасьць БССР: "ад сёньняго дню Беларусь – Савецкая Распубліка – становіцца Распублікай працоўнаго народу рабочых, селянскае бядноты і чырвонаармейцаў Беларусі", дзе згаданыя групы насельніцтва абвяшчаюцца "вольнымі і поўнапраўнымі гаспадарамі вольнай незалежнай Беларускай Сацыялістскай Распублікі."

Такая інтэрпрэтацыя сутнасьці БССР дазваляе зрабіць шэраг высноваў. Па-першае, у адрозьненьні ад "нацыянальнай" БНР, БССР адпачатку мае клясавы характар, дзе ўжываньне тэрміну Беларусь мае выразна геаграфічна-адміністрацыйны зьмест. Па-другое, з фразы аб "вольнай і незалежнай" Савецкай Беларусі вынікае неабходнасьць прааналізаваць бачаньне папярэдніх дзяржаўнаых фармацыяў на беларускіх землях у інтэрпрэтацыі стваральнікаў БССР.

Першы абзац маніфэсту яскрава ілюструе гэтую інтэрпрэтацыю. Беларусь "рабочых і бедных селян" прадстаўляецца "горацешнай пакутнай", "сперша доугія вехі свайго жыцьця служыўшая сродкам для абагачэньня польскаго вяльможнаго панствапамешчыкаў, зломысных грашавікоў-купцоў і усялякіх багацеяў-крывасмокаў, а потым захопляная пад уціск расейскаго крываваго самадзяржаўяз яго гэнераламі і самаўладным чыноўніцтвам".

Такім чынам, у інтэрпрэтацыі стваральнікаў БССР як Рэч Паспалітая, так і Расейская Імпэрыя трактуюцца аднолькава як няволя беларускага "працоўнага народу" Пры гэтым, у адрозьненьні ад інтэрпрэтацыі БНР, дзе гэтая няволя мае нацыянальны характар, у выпадку БССР прыгнёт беларускіх земляў у Рэчы Паспалітай і Расейскай Імпэрыі мае выразны

дзяржаўна-клясавы зьмест. Пры гэтым, далучэньне беларускіх земляў да Расейскай Імпэрыі трактуецца як захоп. Пра "далюблінскія" дзяржаўныя фармацыі на тэрыторыі Беларусі Маніфэст аніякіх згадак ня робіць. Карыстаючыся лёгікай бальшавікоў можна адназначна сказаць, што "далюблінскія" дзяржаўныя фармацыі на тэрыторыі Беларусі, "вякі цярпеўшай няволю, пакуту і зьдзек", несьлі гнёт "працоўнаму народу", але нельга сказаць, ці лічылі беларускія камуністы палітычныя эліты (у іх візіі – паноўныя клясы) этнічна беларускімі.

Варта таксама згадаць пра кантраст у ацэнцы дзейнасьці бальшавікоў і іншых палітычных сілаў, што спрабавалі ўсталяваць кантроль над беларускімі землямі. Таму "паганая Рада [БНР], нямецкая акупацыйная начальства, польскія і украінскія пасяганьня лічацца скінутымі, няістнуючымі і абвяшчаюцца (...) злымі варагамі [ўсяго працоўнага народу], заслужанымі няшчаднай рэвалюцыйнай кары." Такім чынам, стваральнікі БССР разглядалі свой праект, што будаваўся "на закладзінах камунізму [і] на фундамэнці міжнароднае злукі працоўнаго люду" як адзіны слушны. Акрамя таго, ад самага пачатку абвяшчэньня БССР яе кіраўнікі не былі гатовыя талераваць іншыя чымся бальшавісцкая формы дзяржаўнай арганізацыі. Аднак, у сьвеце апісаньня "польскіх і украінскіх пасяганьняў" на беларускія землі, а таксама геаграфічна-адміністрацыйнага ўжываньня тэрміну Беларусь стваральнікамі БССР паўстае пытаньне, на якой падставе вызначаліся межы Беларусі. Сам Маніфэст тлумачэньня гэтаму не дае, аднак, Пастанова Першага зьезду КП(б)Б аб межах БССР ад 30 сьнежня 1918 году, што папярэднічала Маніфэсту кажа пра тое, што да БССР мусяць належаць землі, населеныя пераважна Беларусамі і дае поўны пералік гэтых тэрыторыяў. Такім чынам, можна зрабіць выснову, што ў дачыненьні да вызначэньня межаў БССР, яе стваральнікі выкарыстоўвалі фактычна тую ж, што і Рада БНР, формулу: "Беларусь – тэрыторыя расьсяленьня беларускай нацыі, дзе яна складае колькасную большасьць." Розьніца, аднак, у тым, што ў адным выпадку этнічная тэрыторыя мусіла быць базай для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы БНР, а ў іншым – абгрунтоўвала стварэньне геаграфічна-адміністрацыйнай фармацыі БССР, заснаванай на камуністычнай ідэалёгіі.

Канстытуцыя БССР 1919 году – вельмі сьцісλы дакумэнт, які адлюстроўвае ваенна-палітычную сытуацыю таго часу. Ён быў значна дапоўнены ў 1920 годзе, пасьля аднаўленьня БССР, аднак гэтыя дапаўненьні, як зрэшты і ўся Канстытуцыя, утрымліваюць даволі мала элемэнтаў, што тычыліся б паняткаў "народ", "нацыя" і "дзяржаўнасьць". Канстытуцыя базуецца "на ленінскім разуменьні судачыненьняў паміж дэмакратыяй і дыктатурай, разглядаючы савецкую дэмакратыю як дэмакратыю для большасьці і супраць меншасьці, а дыктатуру пралетарыяту – як вышэйшую праяву дэмакратыі." Адпаведна, арт. 3 Канстытуцыі сьцьвярджае, што "ўлада павінна належаць цалкам і выключна працоўным масам і іх паўнамоцнаму прадстаўніцтву – Саветам працоўных, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў."

Такім чынам, Канстытуцыя замацоўвае клясавую няроўнасьць, у тым ліку праз пазбаўленьне асобных індывідаў і групаў "правоў, якія імі выкарыстоўваюцца ва ўрон інтарэсам сацыялістычнай рэвалюцыі" (арт. 16), і разглядае БССР як "свабоднае сацыялістычнае грамадзтва ўсіх працоўных Беларусі" (арт. 5). Адзіным артыкулам, які тычыцца нацыянальнага пытаньня ёсьць арт. 15, які гарантуе ўсім грамадзянам БССР роўныя правы незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасьці і забараняе "прыгнёт нацыянальных меншасьцяў ці абмежаваньне іх раўнапраўя." Такім чынам, згодна з Канстытуцыяй 1919 году БССР можна разглядаць як геаграфічна-адміністрацыйную фармацыю, што ажыцьцяўляе дыктатуру пралетарыяту праз уладу Саветаў і месьціцца на тэрыторыі, дзе беларусы складаюць этнічную большасьць.

### *Канстытуцыі БССР 1927 і 1937 гг.*

Дзьве гэтыя Канстытуцыі адлюстроўваюць далейшую эвалюцыю савецкай улады ў БССР, якая на той момант стала адной з рэспублікаў Савецкага Саюзу. Пры падвышэньні ўвагі да нацыянальнага пытаньня, гэтыя два дакумэнты нашмат у чым паўтараюць зьмест Канстытуцыі 1919 г. і амаль не закранаюць элемэнтаў, што тычыліся б паняткаў "народ", "нацыя" і "дзяржаўнасьць".

Канстытуцыя 1927 г. базуецца на асноўных палажэньнях яе папярэдніцы і мае на мэце гарантаваць дыктатуру пралетарыяту, зьнішчыць эксплюатацыю і ажыцьцявіць камунізм, "за якім ня будзе ані падзелу на клясы, ані дзяржаўнай улады" (арт.1). Такая фармулёўка, бадай, робіць нерэлевантнымі зварот да якой-кольвек гістарычнай дзяржаўнасьці і тэрытарыяльных пытаньняў, бо сам панятак "дзяржаўнасьці" ў пэрспэктыве мусіў быў зьнікнуць. БССР абвяшчаецца як "дзяржава дыктатуры пралетарыяту, якая ажыцьцяўляе свае задачы на падставе зьвязу рабочых і сялянаў" (арт.2), дзе ўся ўлада належыць саветам рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў (арт. 3), з чаго вынікае што ўлада ў БССР дагэтуль мае клясавы характар. Акрамя таго, БССР ёсьць складовай часткай СССР, якая мае права выйсьці зь яго складу (арт. 4).

Канстытуцыя 1927 году гарантуе "поўнае зьнішчэньне нацыянальнага гнёту" і забясьпечвае "свабоднае эканамічнае і культурнае разьвіцьцё і ўздым дабрабыту працоўных усіх нацыянальнасьцяў, што яе насяляюць" (арт. 20.1). Пры гэтым, на тэрыторыі, дзе нацыянальныя меншасьці складаюць большасьць насельніцтва гарантуецца стварэньне саветаў, "што працуюць на мове дадзенай нацыянальнасьці і як найпаўней улічваюць у сваёй працы нацыянальныя асаблівасьці" (арт. 20.2). БССР гарантуе сваім грамадзянам свабоднае карыстаньне роднай мовай у палітычным і грамадзкім жыцьці, права і рэальную магчымасьць на навучаньне на роднай мове ў школе, а таксама поўнае раўнапраўе чатырох моваў – беларускай, ідышу, расейскай і польскай (арт. 21), на якіх публікуюцца таксама і ўсе заканадаўчыя акты (арт. 23). Адметнасьцю ёсьць той факт, што за беларускай мовай прызнаецца статус мовы "пераважнай для стасункаў паміж дзяржаўнымі, прафэсійнымі і грамадзкімі ўстановамі і арганізацыямі" на падставе значнай колькаснай перавагі беларускай нацыянальнасьці ў насельніцтве БССР (арт. 22).

Такім чынам, Канстытуцыя БССР з аднаго боку гарантавала роўныя палітычныя і сацыяльна-культурныя правы для прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў БССР, аднак гэтыя правы мелі выключна клясавы характар, бо тычыліся толькі працоўных, выключаючы ўсе іншыя сацыяльныя групы. Прызнаньне клясавага зьмест ўлады, рэалізаванага ў прынцыпе "ўся ўлада – Саветам" не дазваляе казаць пра нацыянальны характар ўлады ў БССР, а таму ня робіць мажлівым трактаваць БССР як нацыянальную беларускую фармацыю.

Вось чаму, падобна які яе папярэдніца, Канстытуцыя 1927 году БССР разглядае як геаграфічна-адміністрацыйную фармацыю, што ажыцьцяўляе дыктатуру пралетарыяту праз уладу Саветаў і месьціцца на тэрыторыі, дзе беларусы складаюць этнічную большасьць. Менавіта таму прызнаньне за беларускай мовай пераважнага статусу ў стасунках дзяржаўных органаў і інстытуцыяў ёсьць нічым іншым, як простай канстатацыяй этнічнай сытуацыі на тэрыторыі БССР.

Наступная Канстытуцыя БССР была прынята ў 1937 годзе і не нашмат адрозьнівацца ад сваёй папярэдніцы, маючы пры гэтым, аднак, шэраг асаблівасьцяў. Падобна як і яе папярэдніца, Канстытуцыя 1937 году разглядае БССР як "сацыялістычную дзяржаву рабочых і сялянаў" (арт.1) у складзе СССР (арт. 13) з правам свабоднага выйсьця зь яго (арт.15).

Уся ўлада ў БССР належыць "працоўным гораду і вёскі ў выглядзе Саветаў працоўных дэпутатаў" (арт.3). Канстытуцыя 1937 году замацоўвае публікацыю законаў БССР "на беларускай, а таксама расейскай, польскай і ідышы" (арт.25) і гарантуе раўнапраўе грамадзянаў БССР "незалежна ад іх нацыянальнасьці і расы, ва ўсіх сфэрах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадзка-палітычнага жыцьця", караючы паводле закону наўпроставую ці ўскосную дыскрымінацыю на нацыянальнай глебе (арт. 98).

Такім чынам, Канстытуцыя БССР 1937 году, падобна як і яе папярэдніца, гарантавала роўныя палітычныя і сацыяльна-культурныя правы для прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў БССР. Адсутнасьць слова "працоўны" ці яму падобнага ў кантэксьце сацыяльнага статусу прадстаўнікоў нацыянальнасьцяў не азначае, што гэтыя правы тычыліся ўсіх, незалежна ад сацыяльнага статусу. Па-першае, гэта вынікае з клясавага характару ўлады ў БССР,

рэалізаванага ў прынцыпе “ўся ўлада – Саветам”, што складаюцца з працоўных гораду і вёскі. Па-другое, арт. 4 Канстытуцыі прызнае фактаў “ліквідацыі капіталістычнай сыстэмы, скасаваньня прыватнай уласнасьці на прылады і сродкі вытворчасьці і скасаваньня эксплюатацыі”, з чаго вынікае зьнікненьне іншых як працоўныя сацыяльных клясаў.

Варта таксама зьвярнуць увагу на пэўныя зьмены ў ацэнцы ролі дзяржаўнасьці ў Канстытуцыях 1927 і 1937 гг. Калі першая зь іх кажа пра зьнікненьне дзяржаўнай улады з наступленьнем камунізму, што робіць нерэлевантным зварот да якіх-кольвек пытаньняў гістарычнай дзяржаўнасьці і тэрыторыі, то другая згадвае пра “вызваленьне беларускага народу ад нацыянальнага прыгнёту царызму, і расейскай імпэрыялістычнай буржуазіі”, а таксама пра “разгром беларускай нацыяналістычнай контррэвалюцыі” (арт.2). З гэтага вынікаюць дзьве акалічнасьці. Па-першае, улады БССР даюць фармальна нэгатыўную ацэнку гістарычнаму знаходжаньню беларускіх земляў у складзе Расейскай Імпэрыі, прычым ня толькі з клясавага, але і нацыянальнага гледзішча, што супадае з ацэнкай гэтага пэрыяду Радай БНР. Па-другое, нэгатыўная ацэнка “беларускай нацыяналістычнай контррэвалюцыі” можа азначаць сярод іншага непрыняцьце ўладамі БССР праекту БНР як беларускай нацыянальнай дзяржаўнай фармацыі, што, улічваючы характар улады ў БССР, толькі падкрэсьлівае адміністрацыйна-тэрытарыяльны зьмест апошняй.

Такім чынам, характар уладаў у БССР паводле Канстытуцыі 1937 г. фактычна паўтарае палажэньні Канстытуцыі 1927 г., улічваючы пры гэтым вынікі эвалюцыі камуністычнай сыстэмы ў БССР за гэтыя 10 гадоў. Таму, БССР у вэрсіі Канстытуцыі 1937 году належыць трактаваць як геаграфічна-адміністрацыйную фармацыю, якая месьціцца на тэрыторыі, дзе беларусы складаюць этнічную большасьць, і дзе усталяваная дыктатура пралетарыяту, а ўся ўлада сканцэнтраваная ў руках Саветаў.

***Канстытуцыя БССР 1978 г.***

Нягледзячы на тое, у Прэамбуле да Канстытуцыі БССР 1978 году згадана пра “пераемнасць канстытуцыйнага развіцця нашай краіны, ідэй і прынцыпаў”[10] яе папярэднiц, прааналізаваных вышэй, гэтая Канстытуцыя нашмат адрозьніваецца ад сваіх папярэдніц, шмат у чым адлюстроўваючы рэаліі таго часу, калі яна была прынятая. Аналіз ейнага зьместу дазваляе знайсьці нашмат болей элемэнтаў, якія акрэсьліваюць бачаньне тагачаснымі уладамі БССР зьместу паняткаў “народ”, “нацыя” і “дзяржаўнасьць”.

Ужо ў прэамбуле Канстытуцыі згадваецца пра сфармаваную “новую гістарычную супольнасць людзей – савецкі народ” (абз.2), часткай якой народ БССР сябе ўсьведамляе (абз.9). На маю думку, гэтую савецкую ідэалягему Брэжнеўскага пэрыяду варта разглядаць у кантэксьце зьместу дадзенай Канстытуцыі, ня робячы, аднак, на ёй адмысловай акцэнтацыі. Таму, у гэтым кантэксьце неабходна зьвярнуцца да абзацу 6 Прэамбулы, згодна зь якім БССР ёсьць “раўнапраўная рэспубліка ў саставе Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, які ўвасабляе дзяржаўнае адзінства савецкага народа, згуртоўвае ўсе нацыі і народнасці для сумеснага будаўніцтва камунізму.” Улічваючы спэцыфіку розьніцы паміж нацыямі і народнасьцямі ў кантэксьце СССР, можна зрабіць выснову, што беларусы разглядаюцца як нацыя. Аднак, у кантэксьце Канстытуцыі паняткі “нацыя” і “народ” ня ёсьць тоеснымі.

Згодна з Канстытуцыяй, БССР трактуецца як “сацыялістычная агульнанародная дзяржава, якая выражае волю і інтарэсы рабочых, сялян і інтэлігенцыі, працоўных рэспублікі ўсіх нацыянальнасцей” (арт.1), уся ўлада ў якой належыць народу і ажыцьцяўляецца праз Саветы народных дэпутатаў (арт.2). З гэтага вынікае канструкт народу Савецкай Беларусі як усіх грамадзянаў БССР незалежна ад нацыянальнасьці. У зьвязку з гэтым, важна адзначыць тое, што Канстытуцыя 1978 году – першая Канстытуцыя Савецкай Беларусі, дзе народ прызнаны крыніцай улады і, адпаведна, дзе аніводная сацыяльная група ня выключана з дзяржаўнага жыцьця. Канстытуцыя таксама гарантуе роўнасьць грамадзянаў БССР “розных рас і нацыянальнасцей”, што сярод іншага забясьпечваецца правам карыстацца роднай мовай і мовамі іншых народаў СССР, караючы паводле закону наўпроставую ці ўскосную дыскрымінацыю на нацыянальнай глебе (арт.32). Такім чынам, уладу Саветаў у інтэрпрэтацыі Канстытуцыі БССР 1978 году

можна трактаваць як агульнанародную, што абапіраецца на ўсе як сацыяльныя, так і нацыянальныя групы, прысутныя ў Савецкай Беларусі.

Неабходна таксама зьвярнуць увагу на інтэрпрэтацыю гістарычнай дзяржаўнасьці на беларускіх землях, якую прапануе Канстытуцыя 1978 году. У абзацы 3 яе Прэамбулы сьцьвярджаецца, што "[с]таўшы на шлях сацыялістычнай рэвалюцыі, рабочыя і сяляне Беларусі з дапамогай рускага пралетарыяту ўпершыню ў гісторыі здабылі сваю дзяржаўнасць, утварылі Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку." Такім чынам, БССР разглядаецца як першая беларуская дзяржаўнасьць, што нават у адсутнасьці наўпроставых згадак пра папярэднія дзяржаўныя фармацыі на беларускіх землях і ўжываньня фармулёўкі "рабочыя і сяляне Беларусі" дае магчымасьць казаць пра "небеларускі" характар папярэдніх дзяржаўных утварэньняў на тэрыторыі Беларусі ва ўспрыняцьці стваральнікаў Канстытуцыі 1978 году.

Такім чынам, БССР у вэрсіі Канстытуцыі 1978 году належыць трактаваць як агульнанародную дзяржаўную фармацыю, якая месьціцца на тэрыторыі, дзе беларусы складаюць этнічную большасьць, і дзе ўлада належыць народу і ажыцьцяўляецца праз Саветы народных дэпутатаў. Такая канструкцыя дазваляе разглядаць БССР як беларускую нацыянальную дзяржаўную фармацыю.

***Высновы***

Аналіз канстытуцыйных актаў БССР цалкам адлюстроўвае эвалюцыю камуністычнай сыстэмы ў Беларусі. Пры гэтым, сама БССР у візіі сваіх канстытуцыйных актаў праходзіць шлях ад геаграфічна-адміністрацыйнай фармацыі, што месьціцца на тэрыторыі, дзе беларусы складаюць этнічную большасьць, і дзе усталяваная дыктатура пралетарыяту, а ўся ўлада сканцэнтраваная ў руках Саветаў (Маніфэст аб абвяшчэньні БССР і Канстытуцыі БССР 1919, 1927 і 1937 гг.) да агульнанароднага дзяржаўнага ўтварэньня, характарыстыкі якога дазваляюць разглядаць БССР як беларускую нацыянальную дзяржаўную фармацыю (Канстытуцыя БССР 1978 г.).

Пры гэтым, аналіз зьместу канстытуцыйных актаў БССР за выняткам Канстытуцыі 1978 г. не дазваляе знайсьці шмат элемэнтаў, якія акрэсьліваюць бачаньне тагачаснымі уладамі БССР зьместу паняткаў "народ", "нацыя" і "дзяржаўнасьць". Паняткі "нацыя" і "народ" згадваюцца толькі ў Канстытуцыі 1978 г. і ня ёсьць тоеснымі. Апошні тэрмін ахоплівае ўсіх грамадзянаў БССР незалежна ад нацыянальнасьці.

Трактаваньне пытаньняў гістарычнай дзяржаўнасьці на беларускіх землях розьніцца ў ці ня кожным з прааналізаваных канстытуцыйных актаў. Маніфэст аб стварэньні БССР разглядае як Рэч Паспалітую, так і Расейскую Імпэрыю як прыгнёт беларускіх земляў, які мае выразны дзяржаўна-клясавы характар.

У той жа час пра "далюблінскія" фармацыі нельга сказаць, ці лічылі беларускія камуністы палітычныя эліты гэтых утварэньняў этнічна беларускімі. Канстытуцыя 1919 г. пра аніякую зь папярэдніх дзяржаўнасьцяў наагул ня згадвае. Наступная за ёй Канстытуцыя 1927 г. кажа пра зьнікненьне дзяржаўнай улады з наступленьнем камунізму, што робіць нерэлевантным зварот да якіх-кольвек пытаньняў гістарычнай дзяржаўнасьці і тэрыторыі. У сваю чаргу, Канстытуцыя 1937 г. дае фармальна нэгатыўную ацэнку гістарычнаму знаходжаньню беларускіх земляў у складзе Расейскай Імпэрыі, прычым ня толькі з клясавага, але і нацыянальнага гледзішча, што супадае з ацэнкай гэтага пэрыяду Радай БНР, пры гэтым даючы ўскосна нэгатыўную ацэнтку праекту нацыянальнай дзяржавы БНР. Нарэшце, Канстытуцыя БССР 1978 г. разглядае БССР як першую ў гісторыі беларускую дзяржаўнасьць..

Сярод іншых высноваў варта таксама адзначыць, той факт, што на самым пачатку існаваньня БССР, пры вызначэньні межаў гэтай фармацыі яе стваральнікі выкарыстоўвалі тую ж, што і Рада БНР, формулу: "Беларусь – тэрыторыя расьсяленьня беларускай нацыі, дзе яна складае колькасную большасьць", з той розьніцай, што ў выпадку БНР гэтая тэрыторыя была б падмуркам для будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, а ў выпадку БССР яна сталася падмуркам для геаграфічна-адміністрацыйнай фармацыі БССР, заснаванай на камуністычнай ідэалёгіі, якая зь цягам часу эвалюцыянавала ў

беларускую нацыянальную дзяржаўную фармацыю.
**Артыкул:** *К. Касьцяна*

# *Таямніцы Крыжа і станаўленне нацыі*

Актуальнасць пытання аб вяртанні Крыжа ніколі не згасне, пакуль ён не апынецца на Беларусі, бо на маю думку, менавіта вяртанне гэтай рэлііквіі можа паказаць сталасць беларускага досведу, высокадухоўнасць беларусаў як нацыі, дапамагчы людзям у вызначэнні свайго месца на гэтым свеце, абазначыць зварот да каранёў. На прыкладзе легенды аб Граалі я паспрабую гэта данесці.




Не адно пакаленне ў беларусах захоўвалася фенаменальная прага да жыцця, прага да аднаўлення сваіх каранёў. Людзі заўсёды вярталіся да вытокаў і пачыналі жыць зноў, не забываючыся на мінулае, не выракаючыся яго. Вось менавіта аб тых сімвалах беларускай зямлі, якія дапамагалі беларусам паўставаць занава і пойдзе гаворка ў гэтым артыкуле. Дакладней аб адным з галоўных – Крыжы святой Ефрасінні Полацкай. Згублены ў XX стагоддзі ён не дае спакою даследчыкам і тым беларусам, якія зацікаўлены ў станаўленні Беларусі, вяртанні яе духоўных вытокаў. Можна пачуць меркаванне, навошта шукаць тое, што згублена назаўседы і копія чаго выраблена зноў і прызнана за нацыянальную святыню? Але як было заўважана ў адной з легендаў аб Крыжы: той, хто валодае Крыжом – валодае Полацкай зямлёй. І ясна кожнаму, што старажытны Полацк з'яўляецца неад'емнай часткай нашай Радзімы і душой нашага краю, вытокам беларускай дзяржаўнасці. Таму арыгінальны Крыж абавязкова павінен вярнуцца на Радзіму, на тую зямлю, на якой ён быў створаны і тую, якую засцерагаць ад бедаў быў пакліканы.

Актуальнасць пытання аб вяртанні Крыжа ніколі не згасне, пакуль ён не апынецца на Беларусі, бо на маю думку, менавіта вяртанне гэтай рэлііквіі можа паказаць сталасць беларускага досведу, высокадухоўнасць беларусаў як нацыі, дапамагчы людзям у вызначэнні свайго месца на гэтым свеце, абазначыць зварот да каранёў. На прыкладзе легенды аб Граалі я паспрабую гэта данесці.

Спачатку трэба абазначыць што ж уяўляе сабой сам Крыж.

Крыжы ўшаноўваліся людзьмі спрадвеку. Паводле энцыклапедычнага слоўніка "Беларуская міфалогія", складзенага І. Клімковічам "крыж – гэта адзін з важнейшых сімвалаў у міфалогіі шэрагу рэлігій, дэкаратыўным мастацтве і геральдыцы. Са старажытных часоў вядомы амаль ва ўсім свеце." Там жа мы даведваемся, што і на старажытным Усходзе былі вядомыя крыжы рознай формы, у тым ліку ордэнныя крыжы. Такім чынам атрымліваецца, што крыж з самага пачатку быў паганскім сімвалам і толькі ў IV стагоддзі ён быў прызнаны ў якасці эмблемы хрысціянскай царквой. Зразумела, што паганскім сімвалам ён быў і на старажытных беларускіх землях. Адразу хацелася б зняць пытанне аб паходжанні крыжа на нацыянальным беларускім гербе "Пагоня". Існуе думка, што гэта і ёсць той самы Крыж Ефрасініі Полацкай, але ж з таго самага слоўніка мы даведваемся, што гэтае пытанне спрэчнае, бо з-за даўжыні гарызантальных перакладзін шасцікутнага крыжа (аднолькавай яны даўжыні ці не) вырашаецца і пытанне пра яго паходжанне – дахрысціянскае ці хрысціянскае.

Удакладнім некалькі дэталяў пра сам Крыж. У 1161 годзе стараннямі Ефрасінні Полацкай быў ўзведзены каменны Спаса-Праабражэнскі сабор. І ў гэты ж храм ёю быў ахвяраваны напрастольны крыж, які выканаў майстар-ювелір Лазар Богша. Шасціканцовы крыж быў выраблены з кіпарысавага дрэва, пакрыты

золатам і срэбрам, упрыгожаны каштоўнымі камянямі і выявамі лікаў святых.
Крыж напаткаў цяжкі лёс. Часы яго знікнення супадаюць з перыядамі цяжкіх іспытаў, якія выпалі на долю Беларусі і беларусаў. Ён як бы адлюстоўваў страту альбо хісткае становішча беларускай духоўнасці падчас войнаў ці акупацыяў. Вось толькі некаторыя з фактаў яго “сумных прыгод”: у XII стагоддзі ён быў звезены ў Смаленск, потым Васілём III у Маскву, але пазней зноў звернуты на ранейшае месца Іванам Грозным. У Полацку доўгі час захоўваўся ў Сафійскім саборы. Вайну 1812 года Крыж перажыў замураваным у сцяну Сафіі. Потым ён вандраваў у Маскву і Санкт-Пецярбург. І нарэшце ў 1841 годзе Крыж быў пакладзены ў келлі, дзе жыла Ефрасіння Полацкая ў Спаса-Праабражэнскім саборы. Але ў 1921 годзе Крыж быў рэквізаваны і знаходзіўся ў полацкім фінаддзеле да 1928 года, калі ён быў перавезены ў Беларускі дзяржаўны музей, адкуль у 1929 годзе быў перапраўлены ў Магілёўскі краязнаўчы музей. Там ён і знаходзіўся да 1941 года, калі падчас эвакуацыі таямніча знік разам з тысячамі іншых беларускіх каштоўнасцяў. Ужо ў 1997 годзе Крыж быў адноўлены брэсцкім ювелірам Мікалаем Кузмічом і перададзены ў Спаса-Ефрасінеўскі манастыр у Полацку.
Бачна, што крыж Ефрасініі Полацкай пакутваў разам з беларускай зямлей. Як і насельніцтва нашай старажытнай радзімы, ён перажыў цяжкія часіны, але заўсёды вяртаўся на гэтую зямлю. І нібы адраджаўся разам з ёй. Адраджаліся і людзі. Можна з пэўнай доляй адказнасці сцвярджаць, што крыж з’яўляецца сімвалам пакут і вяртання да нармальнага жыцця на Беларусі. Знікаючы падчас вялікіх бедаў, ён нязменна паўставаў з попелу зноў, каб служыць нашым суайчыннікам сімвалам лепшага, верай у будучыню, што бяда скончыцца, а мір і спакой зноў будуць панаваць на Беларусі.
Вось так каротка мы згадалі аб Крыжы і яго “паходжаннях”. Зараз жа прапаную звярнуцца да другой часткі артыкула і паспрабаваць зразумець, у чым сутнасць пошукаў так і нязнойдзенага міфалагічнага Грааля. Падкрэсліць духоўную існасць страты і пошукаў гэтага артэфакта.
Грааль – у значэнні сталовы прыбор альбо кубак у раманскіх гаворках падаецца ў розных формах: старажытнафранцузскае— graal, grasal, greal; старажытнаправансальское — grazal; старажытнагішпанскае — grial; партугальскае — gral. Этымалогія слова не зусім абазначана.



Бясспрэчна, што вобраз Грааля нельга зводзіць без астатку ні да метафорыкі царкоўнага таінства, ні да кельцкага міфа, толькі “пераапранутаму” у хрысціянскую вопратку , прычым кельцкі міф мог быць першакрыніцай гэтай міфалогіі. Роля сімволікі Грааля, важнай дзеля рыцарскай культуры сярэдневечча, зводзілася да таго, што яна аб’ядноўвала дух рыцарска-прыгодніцкі, гульню фантазіі, выкарыстоўвае напаўзабытую міфалогію, з хрысціянскай сакраментальнай містыкай. Грааль – гэта тайна, якая адкрыецца толькт самым годным.
Пошукі Грааля, паводле знакамітага расійскага літаратуразнаўцы і даследчыка раманаў артураўскага цыкла А.Д. Міхайлава– гэта вяртанне ў рай, духоўны цэнтр чалавека і Сусвету; сімвал ініцыяцыі, праверкі праз іспыты і сустрэчу са смерцю ў пошуках схаванага сэнсу і тайны жыцця. Яркі прыклад таму мы можам сустрэць у Іагана фон Эшэнбаха ў яго рамане аб Парцыфалі. Пошукі звычайна прадпрымаюцца сонечным героем, не маючым уяўлення аб сваёй сутнасці. Грааль перадусім мае на ўвазе пошук містычнага Цэнтра – “нерухомага першарухавіка”

Арыстоцеля альбо “нязменнай сярэдзіны” усходняй традыцыі.
Грааль, які ўдыхае новае жыцце ў Фенікса і які дае вечнае юнацтва тым, хто яму служыць, мае адносіны да сімволікі Філасоўскага Каменя. Ён таксама выступае ў якасці баркі, каўчэга, у які заключана насенне цыклічнай узнаўняльнасці жыцця, насенне страчаных традыцый.
У глыбіннай псіхалогіі Юнга Грааль сімвалізуе адвечныя пошукі чалавекам унутранай цэласнасці, паўнаты існавання, руху ад Эга да Самасці.
Страта Грааля сімвалізуе страту Залатога Веку, раю, пачатковай духоўнасці, унутранай устойлівасці, чысціні ды нявіннасці чалавека.
Па гэты дзень Грааль, схаваны недзе ад заганных вачэй, чакае свайго новага Персіваля, высакароднага рыцара, які, пераадолеўшы ўсе перашкоды, пабудаваныя Злом, знойдзе яго і стане яго вечным уладальнікам дзеля дабра усіх людзей.
Такім чынам, Грааль – гэта таксама сімвал добрых часінаў, тое недасяжнае і далёкае, што калісьці было страчана і пошукі чаго зараз актыўна вядуцца. Для гісторыі Беларусі “залатымі” былі гады паміж найбольш разбуральнымі войнамі, падчас якіх Крыж знікаў. Але ў той час, калі ён быў на месцы – усё было адносна спакойна і дзяржава жыла сваім звычайным жыццём. Так, гэтае сцвярджэнне таксама адноснае, але ж у большасці выпадкаў з ім можна пагадзіцца.
Менавіта зараз, на маю думку, калі на краіну абрынуліся ліхаманкавыя дні крызісаў, як ніколі нацыя павінна мець свае сімвалы. Вядома, ім не можа быць нацыянальная бібліятэка ці швэйцарскі цягнік, ім павнінна стаць тое, што ужо з’яўляецца сімвалам і служыць ім не адно стагоддзе. Страчаная пара савецкага рэжыму, разлад 90-х, людзі звярнуліся зноў у цэрквы, бо разумеюць, што духоўнасць павінна быць і мець месца ў жыцці. Але духоўнасць без галоўнага яе артэфакта – нішто. Таму, на маю думку, калі зараз пошукі сапраўднага Крыжа не узнавіць з новымі сіламі, то паступова ён ператворыцца ў міфалагічны Грааль – толькі ўспамін пра тыя часы, калі ўсе былі добрыя і ўсяго было ўдосталь.
Напрыканцы хацелася б успомніць Сяржука Сокалава і яго развагі над пошукамі Крыжа Ефрасінні Полацкай. Там ён узгадвае пра “акт передачы рэліквіі з Мінскага Дзяржаўнага Музея ў Магілеўскі ад 21 лістапада 1929 г.”. Пасля дэталёвага разгляду дакумента, атрымліваецца, што, магчыма, была перададзена копія Крыжа, бо ўзгадваецца дубовае дрэва, а не кіпарыс. А менавіта гэты Крыж і знік у эвакуацыі. Таму існуе надзея, што сімвал беларускай нацыі дагэтуль схаваны на тэрыторыі нашай Беларусі, каб па сканчэнні ліхаманкавага часу зноў узнікнуць на сваім законным месцы, а таксама ў сэрцах і душах людзей зямлі беларускай.
**Артыкул:** *М. Чаропкі*



# Дык ці быў помнік?

## (пра «Слова аб палку Ігаравым»)

Ужо больш як дзвесце гадоў разгадваюць загадку «Слова аб палку Ігаравым», спрачаюцца пра сапраўднасць гэтага твора, таямнічасць знаходкі помніка і «тэатральнасць» яго гібелі ў 1812 годзе.



У беларускіх энцыклапедыях, у тым ліку і ў 18-томавай (2002, т.15, с. 10), гаворыцца, што «Слова...» адкрыў «у пачатку 1790-х гадоў рускі гісторык А. Мусін-Пушкін у рукапісе 16 ст., які зберагаўся ў Яраслаўлі і загінуў у Маскве ў 1812 г.». У іншых жа крыніцах, таксама аўтарытэтных, сказана, што гэты спісак XVI ст. (рукапіс) знойдзены ў сярэдзіне 1790-х гадоў — і не ў Яраслаўлі, а ў Спаса-Яраслаўскім манастыры пад Масквой. А Мусін-Пушкін не проста «гісторык», а граф,

стары кацярынінскі вяльможа, обер-пракурор Сінода (вышэйшага праваслаўнага органа рускай царквы).
Сам граф, як пісаў К.Ф. Калайдовіч у сваіх «Біяграфічных звестках аб А.І. Мусіне-Пушкіне», доўгі час не адказваў на яго просьбы паведаміць, калі і якім чынам было набыта «Слова...». Пазней усё ж паведаміў, што розныя рускія кнігі, і «Слова...» у іх ліку, купіў у архімандрыта Спаса-Яраслаўскага манастыра Іаіла. У «Запісках для біяграфіі» Мусін-Пушкін пісаў, што шмат другіх рэдкіх кніг, «знойдзеных у Польшчы, сярод якіх Літоўскі Статут, надрукаваны славянскімі літарамі ў Вільні ў 1586 годзе», падарыў яму «праасвяшчэнны Іоў Кацярынаслаўскі».
У ранейшых савецкіх падручніках па рускай літаратуры адназначна паведамлялася, што «Слова...» было адкрыта Мусіным-Пушкіным у 1795 годзе (а гэта, як вядома, дата трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай). Пра набыццё ў Вільні або Горадні старажытнага помніка, відаць, далажылі Кацярыне II, і, як паказана ва ўсіх крыніцах, у I795–I796 гг. для яе была зроблена рукапісная копія «Слова...». Цалкам мажліва, што да 1795 г. «Слова...» захоўвалася ў архіве ці манастыры Горадні-Гродна. Такое меркаванне выказваюць беларускія даследчыкі А. Кацерлі, С. Палуцкая, украінскі лінгвіст Е. Паўленка. Згаданы вышэй расійскі архівіст-гісторык К.Ф.Калайдовіч адзначаў, што набытае Мусіным-Пушкіным «Слова...» было «пісана ў ліст беларускім почыркам». А на думку Е. Паўленкі, аўтарам «Слова...» з'яўляецца гродзенскі князь Ізяслаў Васількавіч, які пасля паражэння («притрепанъ Литовскыми мечи») уцёк у Галіч да Яраслава Асмысла. Усе гэтыя імёны князёў, як і братоў Ізяслава — Брачаслава і Усевалада, — упамінаюцца ў «Слове...» Ёсць у «Слове...» і радкі пра Горадню: «Уныли голоси, пониче веселие, трубы трубят городеньскии».
Існуе нямала другіх пунктаў гледжання пра аўтарства гэтага твора. Адны прыпісваюць аўтарства баярыну Пятру Барыславічу, другія — ваяводзе князя Ігара — Рагуйлі, трэція — сыну Ігара ад першага шлюбу Валадзіміру, іншыя — непасрэднаму ўдзельніку адлюстраванага ў творы няўдалага Ігарава паходу супраць полаўцаў у 1185 годзе — Алексічу і г.д.
Украінскі гісторык і даследчык «Слова...» М. Брайчэўскі слушна адзначыў, што ананімнасць гэтага помніка — заканамерная з'ява. «Гэта адна з характэрных рысаў літаратурнага жыцця старажытнай Русі... У тыя часы ні адзін пісьменнік не ставіў свайго подпісу пад уласным творам».
У 1800 годзе Мусін-Пушкін сумесна з дырэктарам архіва Калегіі міністэрства замежных спраў і выдаўцом дакументаў Н. Банціш-Каменскім, а таксама яго памочнікам, гісторыкам-архівістам А. Маліноўскім падрыхтавалі рукапіс да выдання. Яны вызначылі, што гэты рукапіс (як ужо гаварылася, незразумела і таямніча набыты) — не арыгінал, а копія, спісак, зроблены ў XV або XVI ст. Кніга (46 старонак, наклад — 1200 асобнікаў) была выдадзена пад назвай «Ироическая пѣснь о походѣ на половцовъ удѣльнаго князя Новагорода-Северскаго Игоря Святославича, писанная старинным русскимъ языкомъ в исходѣ XII столетия с переложениемъ на употребляемое нынѣ нарѣчіе».
Лічыцца, што амаль увесь наклад кнігі загінуў у вялікім маскоўскім пажары 1812 года (што таксама ўяўляецца няясным). Прапаў і спісак, знойдзены Мусіным-Пушкіным, але захавалася зробленая для Кацярыны II копія (упершыню апублікаваная ў 1864 годзе).
Цёмная гісторыя знаходкі «Слова...» і знікнення ледзь не ўсяго накладу кнігі спараджала і спараджае недавер да аўтэнтычнасці гэтага твора. Яшчэ ў XIX ст. нявер'е ў старажытнасць помніка выказалі М. Качаноўскі, А. Сенкоўскі, М. Каткоў, Э. Балхавінаў, М. Надзеждзін і іншыя. Так, вядомы французскі славіст Андрэ Мазон у 1940 годзе апублікаваў працу, у якой даказваў, што «Слова...» — майстэрская падробка пад даўніну і створана ў канцы XVIII ст. на ўзор «Задоншчыны» кімсьці з яго першых публікатараў.
На старонках аналітычнай газеты «Секретные исследования» (2009, № 4) у артыкуле А. Нарваткіна «Склока... о полку Игореве» падрабязна расказана, як у 1963–1964 гг. савецкі расійскі вучоны, доктар гістарычных навук А.А.Зімін у сваёй вялікай працы (яго кніга з 600 старонак была выдадзена толькі ў 2006 годзе — праз 26 гадоў пасля смерці аўтара), аспрэчваючы сапраўднасць «Слова...»,

аб'яўляе аўтарам падробкі таго самага Іаіля Быкоўскага (родам з Беларусі, вучыўся ў Кіеве), у якога Мусін-Пушкін нібыта набыў скандальны рукапіс. Праца А.А.Зіміна, надрукаваная на ратапрынце колькасцю ў 101 асобнік, з грыфам «для службовага карыстання», 4-6 мая 1964 года абмяркоўвалася ў Аддзяленні гісторыі АН СССР у Маскве. Паколькі версія сапраўднасці «Слова...» лічылася афіцыйнай і была пertворана ў Савецкім Саюзе ў ідэалагічную догму, у «свяшчэнную карову» агітпропа, абмеркаванне працы А.А.Зіміна закончылася тым, што неўзабаве навуковец быў выгнаны з Інстытута гісторыі Акадэміі Навук.


ИРОИЧЕСКАЯ ПѢСНЬ
О
ПОХОДѢ НА ПОЛОВЦОВЪ
УДѢЛЬНАГО КНЯЗЯ НОВАГОРОДА-СѢВЕРСКАГО
ИГОРЯ СВЯТОСЛАВИЧА,
ПИСАННАЯ
СТАРИННЫМЪ РУССКИМЪ ЯЗЫКОМЪ
ВЪ ИСХОДѢ XII СТОЛѢТІЯ
съ переложеніемъ на употребляемое нынѣ нарѣчіе.

МОСКВА
Въ Сенатской Типографіи,
1800.

У 2003 г. амерыканскі даследчык Э. Кінан аўтарам падробленага «Слова...» назваў чэшскага вучонага Йосефа Даброўскага (І753–1829), які добра ведаў амаль усе славянскія мовы. У даследаванні Э. Кінана выказваецца думка, што імавернасць стварэння «Слова...» ў канцы XVIII стагоддзя тлумачыцца самім часам — стагоддзем адкрыцця і распаўсюджання сярэдневяковых эпасаў як канцэптуальных фактараў у працэсе фарміравання нацый (прыгадаем, напрыклад, французскую «Песню аб Раландзе», нямецкую «Песню аб Нібелунгах», фінскую «Калевалу», грузінскага «Віцязя ў тыгравай шкуры»). Трэба было паказаць, што і славяне (у першую чаргу, канешне, Расія) маюць свой старажытны літаратурны помнік.

Разам з тым вельмі многія вучоныя (М. Максімовіч, М. Кастамараў, І. Франко, М. Грушэўскі, М. Палявой, М. Гудзій і інш.) лічылі «Слова...» не падробкай, а сапраўдным творам XII ст. і абгрунтоўвалі яго ўкраінскае паходжанне. Да прыкладу, расійскі вучоны М. Гудзій апісаў стылістычнае і вобразнае падабенства «Слова...» з Галіцка-Валынскім летапісам; вядомы сучасны ўкраінскі філолаг П. Білавус дэталёва супастаўляе «Слова...» і Кіеўскі летапіс, знаходзіць досыць многа падобнага, адзначае адрозненні і робіць выснову: «Аўтар летапіснага аповеду — хранограф, пісар аднаго з князёў, аўтар «Слова пра паход Ігараў» — паэт, мысляр, мастак».

У Савецкім Саюзе панавала прыдуманая ў вялікадзяржаўных, шавіністычных мэтах яшчэ ў XIX ст. канцэпцыя трохмоўнай калыскі, «трох плямёнаў адзінага рускага народа: велікарусаў, маларосаў і беларусаў», канцэпцыя-трыяда: адна дзяржава (Кіеўская Русь, ці Старажытнаруская дзяржава) — адзін народ (старажытнарускі) — адна мова (старажытнаруская). Гэта канцэпцыя аб развіцці ўсходнеславянскіх моў з адной калыскі — старажытнарускай мовы — набыла ў рускім мовазнаўстве, як пісаў прафесар Л.М.Шакун, «усеагульнае прызнанне; у савецкія часы ёй быў нададзены статус афіцыйнай дактрыны, улады адгарадзілі яе ад усялякай крытыкі, бо яна як найлепей адпавядала іх імкненню сцвердзіць «адвечнае адзінства» ўсходніх славянаў, зліць «ізноў» іх мовы ў адзіную — рускую мову». Пра гэту канцэпцыю прафесар В.У. Мартынаў сказаў, што яна «не вытрымлівае ніякай крытыкі. Гэта была больш палітычная канцэпцыя, чым навуковая, і нам усім добра вядома, чаму яна была папулярная».

Дарэчы, пры савецкай уладзе не пераставала ўвасабляцца ў жыццё тая ж самая трыяда; толькі ў абноўленым выглядзе: адна дзяржава (СССР) — адзін народ (савецкі) — адна мова (руская). Крэмль строга выконваў наказ Леніна: «Размежаванне нацый у межах адной дзяржавы шкодна. Мы, марксісты, імкнёмся зблізіць і зліць іх. А паколькі зліццё народаў магчыма толькі пры асіміляцыі нярускіх народаў у рускім, значыць, менавіта ў гэтым і

павінна заключацца нацыянальная палітыка бальшавікоў».
У Расіі і цяпер прытрымліваюцца той жа канцэпцыі, уведзенай у свядомасць вельмі многіх людзей. У расійскіх энцыклапедыях, кнігах, падручніках «Слова аб палку Ігаравым» — гэта «древнерусский памятник». А ў цяперашнім тэксце «Слова...», дзе раней неаднойчы было «за землю Руськую», папраўлена: «за землю Русскую»…
А.А.Залізняк, спрабуючы растлумачыць разнастайныя «цёмныя мясціны» «древнерусского памятника», у адных выпадках знаходзіць «правільную карціну хіба ў паўночна-заходняга перапісчыка XV–XVI ст.» [нашы ліцвіна-беларускія землі ў XIX ст. называліся Паўночна-Заходнім краем], у другіх — адзначае «прадстаўленую ў «Слове...» арфаграфію паўднёваславянскага тыпу, характэрную для пісараў канца XV — пачатку XVI ст.» (паўднёваславянскага — значыць, «украінскага»). Хоць тут і яўная нестыкоўка, але гэта факты, якія таксама гавораць пра многае: перапісчык, пісар — або ліцвін (беларус), або ўкраінец.
У сучаснай Украіне бясспрэчна называюць «Слова...» сваім, украінскім, напісаным тагачаснай, кніжнай, спецыфічна «літаратурнай» мовай. «Літературознавча енциклопедія» (Київ, 2007, т. 2, с.411) пачынае слоўнікавы артыкул пра «Слова...» так: «Слово о полку Ігоревім», або «Слово про Ігорів похід» — пам’ятка киеворуського письменства». У падручніку «Історія української літератури XI–XVIII ст.» (Київ: Академія, 2002, с. 154) «Слова...» называецца літаратурным феноменам, класічным творам, «золотою книгою українського письменного люду». У 1985 г. па рашэнні міжнароднай арганізацыі ЮНЕСКА адзначалася 800-годдзе «помніка стараўкраінскай літаратуры».
…У беларускім часопісе «Роднае слова» (2011, № 3, с. 22) гаварылася пра вялікія магчымасці сучасных інфармацыйных тэхналогій і было адзначана, што з дапамогай інфармацыйна-камп’ютарных методык атрымана «машыннае» пацвярджэнне старажытнасці «Слова аб палку Ігаравым» і яго «непадробнай метафізічнай глыбіні»…

# Патрыёты «крыўскай» дзяржавы

*Артыкул са зборніка "Супроць контррэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму". Белдзяржвыдавецтва, 1931.*
Навуковыя работнікі Савецкай Беларусі з асаблівым абурэньнем адгукнуліся на паведамленьне аб контррэволюцыйнай дзейнасьці нацыянал-дэмократаў. Навуковыя работнікі БССР не ўпяршыню ўзьнімаюць голас свайго абуранага протэсту супроць шкоднікаў, контррэволюцыянэраў, змоўшчыкаў усякіх масьцей.




Чаму-ж на гэты раз наша абурэньне асабліва рэзкае? Перш за ўсё таму, што асобы, аб контррэволюцыйнай дзейнасьці якіх было апублікавана ў друку, выйшлі з нашага асяродзішча, з асяродзішча нашай профэсіянальнай організацыі - сэкцыі навуковых работнікаў БССР.
Андрэй Александровіч гэтымі днямі пісаў:
Злоўлены ў масках сучасных прыблуд
Шкоднікі слова і дзела.
Гэтыя «шкоднікі слова і дзела» доўгія гады працавалі разам з намі, яны супрацоўнічалі з намі - пад грымам адданасьці савецкай уладзе, пад маскай зацікаўленасьці ў нашым будаўніцтве.
Як Рамзіны і Громаны, Шэйны і Асадчыя, гэтыя паны мелі дзьве вопраткі-мантыі - парадных выступленьняў, красамоўных дэкларацый, урачыстых заяў і чорна-жоўтую спэцвопратку штодзеннай, дзелавой контррэволюцыйнай дзейнасьці.
На нашых сходах яны заўсёды былі ў гэтых чырвоных мантыях... Калі, напрыклад, адбываўся сход навуковых работнікаў Менску, прысьвечаны контррэволюцыйнай організацыі ўкраінскіх нацыяналістычных інтэлігентаў - процэсу «СВУ», якім патосам грамадзянскага

абурэньня гучэлі прамовы іх беларускіх паплечнікаў. Некрашэвічы, Цьвікевічы, Лёсікі ня ведалі мяжы свайму абурэньню з поваду здрадніцтва Яфрэмавых і Нікоўскіх. Яны гаварылі аб дыктатуры пралетарыяту і патрабавалі самай суровай кары... Так бязьмежна крывадушна выступалі гэтыя паны ў масках адданасьці рэволюцыі і пролетарыяту. Гэтае самае было на пленуме СНР, прысьвечаным клясавай барацьбе на навуковым фронце.

Контррэволюцыянэры жонглявалі імёнамі Маркса і Леніна, слоўцамі аб індустрыялізацыі, колектывізацыі і соцыялізьме. Савецкія маскі былі шчыльна насунуты.

Але часамі маскі выдавалі, яны крыху ссоўваліся і выяўляўся сапраўдны твар клясавага ворага. Так, на тым-жа пленуме Цьвікевіч кінуў сказ аб тым, што «мы» будзем вучыцца марксызму, калі «вы» будзеце вучыцца беларускай мове. Ластоўскі зазначыў, што ўрад ня выканаў свайго абяцаньня, - пабудаваць у Менску вызначаны ім, Ластоўскім, музэй і, нарэшце, Трамповіч паставіў пытаньне аб тым, калі-ж, нарэшце, нашым «грамадзкім дзеячом» перастануць напамінаць аб некаторых іх «памылках» (гутарка йшла аб такіх «памылках», як стварэньне белагвардзейскіх атрадаў...).

Так узьнімалася часамі моцна сядзеўшая гадамі маска.

Яшчэ больш паднімалася гэта маска ў часе вядомай лінгвістычнай дыскусіі, у якой катэдра марксызму-ленінізму БАН сутыкнулася з інстытутам мовы БАН.

Катэдра марксызму-ленінізму рубам паставіла пытаньне аб тым, што ў нашай лінгвістыцы праводзіцца палітыка клясавага ворага. Мы выкрылі, што азначае орыентацыя тэй групы, якая монополізавала беларускую лінгвістыку на моўную «самабытнасьць». Мы паказалі, куды вядзе тэндзнцыя - выкрэсьліць беларускі пролетарыят з ліку фактараў словастварэньня. Мы вывелі на чыстую воду тэорыю спэцыфічнай клясавасьці беларускай мовы. Мы выкрылі клясавы сэнс беларускай шышкоўшчыны і паказалі, «куды растуць» пурысцкія экспэрымэнты нашых хавальнікаў моўнай чыстаты. Мы выявілі палітычнае значэньне лінгвістычнай полёнізацыі. Мы паставілі «ў лоб» паном-акадэмікам рад «щекотливых» пытаньняў, з поваду ператварэньня «зямляробства» ў «рольніцтва», «колектыву» ў «суполку», «арцелі» ў «сябрыню», «эксплёатацыі» ў «вызыск», «бедняка» ў «злыдня», «пролетарыяту» ва «ўбоства» і г.д., і г.д.

І ў адказ мы нічога не пачулі, апрача асабістых выпадкаў крывадушных клятваў ленінскай нацыянальнай палітыкай, шляхетнага абурэньня і крыўды, якую катэдра марксызму нанесла лінгвістычным аўторытэтам...

Гэта было ў парадку рэчаў:

*Когда раскроется игра,*
*Как негодуют шулера.*
*Как кричат о чести*
*И благородной мести.*

Але маскі падніmaліся толькі момантамі. Гадамі яны былі шчыльна надзеты і пад іх прыкрыцьцем вялася шкодніцкая праца на навуковым фронце.

**Артыкул:** *С. Вольфсона*



## Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі Вялікага Княства Літоўскага

*Працяг….*

У другой палове 80-х гадоў XX ст. з новай этнічнай характарыстыкай ВКЛ выступіў Мікола Ермаловіч, які прадставіў яго як выключна беларускую дзяржаву. Працы гэтага аўтара даюць адзін з прыкладаў адкрытай і нават намерана завостранай пастаноўкі праблемы этнічнай інтэрпрэтацыі ВКЛ. Катэгарычна адназначнае яе вырашэнне (напрыклад, апошняя кніга так і называецца Беларуская дзяржава - Вялікае Княства Літоўскае), можна лічыць адной з прыкметаў публіцыстычнага характару гэтых працаў.

Усе тры названыя версіі застаюцца актуальнымі і ў нашыя дні. Этнічналетувіская інтэрпрэтацыя выступае ў большасці твораў польскіх гісторыкаў, непадзельна пануе сярод летувіскіх даследчыкаў, ейны савецкі варыянт адроджаны ў афіцыёзнай лукашэнкаўскай, а версія Ермаловіча прысутнічае ў суб'ектнай беларускай гістарыяграфіі. Найчасцей этнічная

характарыстыка прадстаўлена не ў адкрытай форме, а ў кантэксце сінтэтычных і спецыяльных працаў па гісторыі ВКЛ і краінаў-спадкаемцаў гэтай дзяржавы.

Агульнай рысай названых этнічных інтэрпрэтацый з'яўляецца даволі распаўсюджаная памылка ў рэканструкцыі мінулага, менавіта "мадэрнізацыя гісторыі". У нашым выпадку, па-першае, на сярэднявечную дзяржаўную арганізацыю пераносіцца сучаснае разуменне дзяржавы як механізму рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў. Па-другое, пры аналізе дзейнасці сярэднявечных людзей ім міжвольна прыпісваецца веданне вынікаў гістарычнага працэсу ў новыя і найноўшыя часы. Адпаведна, дзеянні тагачасных людзей сучасныя гісторыкі матывуюць свядомым імкненнем дасягнуць той стан рэчаў, які выступае ў навейшы час. У якасці характэрнага прыкладу можна прывесці міфалагему савецкай гістарыяграфіі пра імкненне працоўных масаў беларусаў у часы ВКЛ уз'яднацца з расейскім народам, каб разам змагацца супраць эксплуататараў і разам перамагчы ў Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі.

У ВКЛ у XVI ст. пад уплывам Рэнесансу мелі месца спробы этнічнай ідэнтыфікацыі сваёй краіны як балцкай і як русінскай (беларускай). Характэрнымі ў гэтым сэнсе былі выказванні наконт мовы. Міхалон Літвін прызнаваў русінскую мову чужой і заклікаў "вярнуцца" да латыні. Адваротны прыклад - выказванне Льва Сапегі ў прадмове да Трэцяга Статуту: "не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем". Аднак гэтыя спробы датычылі невялікай часткі эліты і аказаліся нядоўгавечнымі. Актыўная паланізацыя шляхты і мяшчанства ВКЛ у XVII-XVIII ст. прывялі беларускую і летувіскую этнічныя супольнасці да страты эліты і ў навейшы час яны ўвайшлі як "сялянскія народы".

Менавіта сялянская ці традыцыйная этнічная культура стала асновай для развіцця нацыянальных рухаў летувісаў і беларусаў у XIX-XX ст. Носьбіты гэтай культуры складалі абсалютную большасць насельніцтва і Летувы, і Беларусі аж да канца 60-х гадоў XX ст. Менавіта на іх абуджэнне да ўласнага грамадска-дзяржаўнага жыцця былі скіраваныя высілкі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Можна сцвярджаць, што калі б беларускія ды летувіскія сяляне аказаліся асіміляванымі (спаланізаванымі ці зрусіфікаванымі), то сёння не існавала б летувіскага і беларускага народаў. Найбліжэйшы прыклад таму - Прусія, дзе мясцовыя сяляне-балты канчаткова анямечыліся да XVIII ст., а пруская самасвядомасць набыла не балцка-прускую а германа-прускую этнічную форму.

Калі мы хочам высветліць этнічны характар ВКЛ, то павінны вывучыць уплыў ягонай дзяржаўнай арганізацыі на традыцыйную сялянскую культуру летувісаў і беларусаў. Для гэтага найперш патрэбна адказаць на два пытанні: 1) Быў гэты ўплыў свядомым ці праяўляўся аб'ектыўна? 2) Ці быў гэты ўплыў больш спрыяльным для аднаго і менш спрыяльным для другога этнасу?

1) У гістарыяграфіі ВКЛ (асабліва ў яе польскай і летувіскай плынях) здаўна выступае традыцыя свядомага суб'ектнага ўздзеяння гэтай дзяржавы на ход этнічных працэсаў на сваёй тэрыторыі. Як найбольш характэрнае можна прывесці выказванне Ежы Ахманьскага пра створаную летувіскім этнасам дзяржаву, якая не толькі затрымала тэрытарыяльную экспансію русінаў, але вярнула страчаныя раней тэрыторыі: "Powstale przed polowa XIII wieku panstwo litewskie zjednoczylo pod swoja wladza wszystkie ziemie etnicznie litewskie i ogarnelo tez ziemie etnicznie mieszane litewsko-ruskie oraz terytorium przylegle do rdzennej Litwy, zasiedlone przez Rusinow. Litwa wracala w swe stare granice etniczne sprzed ekspansji ruskiej".

Польская гістарыяграфія ў канцы XIX - пачатку XX ст. прадставіла тэзіс пра ўратаванне палякамі летувісаў ад беларускай асіміляцыі праз прыняцце каталіцтва і дзяржаўную унію: "W wieku O?V zdawalo sie, ze ja (Litwe - A. K.) ruska kultura zaleje, ale proces ten przerwalo przyjecie katolicyzmu i zjednoczenie z Polska". Гэтае меркаванне часам паўтараецца і сёння. З такой ацэнкай можна спрачацца, бо, як паказаў далейшы ход падзеяў, па-першае, каталіцтва не перашкаджала летувіскім сялянам пераходзіць на беларускую мову; па-другое, напэўна не перашкаджала, а наадварот, паспрыяла хутчэйшай паланізацыі летувіскай шляхты. Прыняцце і пратэгаванне дзяржавай каталіцтва выпадае ацаніць хутчэй як свядомы выбар і знакавую праяву арыентацыі краіны на заходнееўрапейскую цывілізацыю -

наймацнейшую з усіх суседніх. Арыентацыя на моцнага і яго капіяванне - тыповы прыклад паводзінаў у гісторыі ўсіх народаў свету. У выпадку з ВКЛ прыняцце каталіцтва было выклікана ціскам з боку Тэўтонскага ордэна, афіцыйнай падставай існавання якога з'яўлялася пашырэнне хрысціянства ў ягонай каталіцкай версіі. Амаль усе вялікія князі літоўскія, пачынаючы ад Міндоўга, дэкларавалі (і часам выконвалі) прыняцце хрышчэння па каталіцкім абрадзе ў самыя напружаныя моманты ўзброенай барацьбы з Ордэнам, што паказвае на дыпламатычныя, а не ідэалагічныя матывы гэтых дэкларацыяў.

Па ўсёй верагоднасці, дзяржаўная арганізацыя ВКЛ не праводзіла свядомага ўплыву на этнічную сітуацыю ў краіне (па меншай меры мне не ўдалося знайсці гэтаму доказаў), а выкарыстоўвала для забеспячэння свайго функцыянавання больш прыдатную г.зн. больш развітую культуру з тых, што меліся ў наяўнасці.

У сярэдзіне XIII ст., калі паўставала ВКЛ, летувіскі этнас быў пераважна няхрышчаны, не меў уласнай пісьмовасці, традыцый дзяржаўнага жыцця, не ўмеў будаваць гарады і мураваную архітэктуру і колькасна складаў меншасць у дзяржаве. У такіх умовах пануючая дынастыя балцкага (магчыма, летувіскага) паходжання для абслугі дзяржаўнага жыцця (і ў жыцці прыватным таксама) натуральна прыняла старабеларускую культуру (афіцыйную мову, сістэму кіравання, права і г.д.). Цяжка сказаць, наколькі гэтая элітарная частка этнічнай культуры ўплывала на беларускую традыцыйную культуру, але можна адназначна сцвярджаць, што першая не замінала развіццю другой.

2) Адказ на другое пытанне, пра большае ці меншае спрыянне дзяржавы адной з традыцыйных культураў, можа быць сфармуляваны незалежна ад адказу на першае. Абстрагаванне ад праблемы свядомасці ці аб'ектыўнасці дзяржаўнага ўплыву на традыцыйныя культуры не перашкаджае вывучэнню наступстваў гэтага ўплыву.

Важнейшым і хіба адзіным даступным нам крытэрыем у высвятленні тых наступстваў будуць змены (пашырэнне ці звужэнне) этнічных арэалаў беларусаў і летувісаў за час існавання ВКЛ. Ва ўмовах доўгачасовага блізкага суседства павелічэнне арэалу аднаго этнасу магчыма толькі коштам тэрыторыі другога. Прасачыўшы змены этнічнай мяжы паміж беларусамі і летувісамі ў часы існавання ВКЛ, мы можам высветліць, каму з іх больш паспрыяла паўтысячагадовае функцыянаванне дзяржавы. Адказ на гэтае пытанне будзе таксама этнічнай характарыстыкай ВКЛ і адначасова пакажа на першачарговае (а, можа, роўнае) права беларусаў або летувісаў на гістарычную спадчыну Вялікага Княства.

Змены беларуска-летувіскай этнічнай мяжы на працягу 2 тыс. н.э. добра вывучаныя ў выніку спецыяльных навуковых даследаванняў. Галоўным аб'ектам даследавання выступае якраз сялянская традыцыйная культура. На працягу паўстагоддзя пасля другой сусветнай вайны археолагі, мовазнаўцы, этнографы дэталёва вывучалі працэс балта-славянскіх (летувіска-беларускіх) кантактаў, які па сваёй працягласці (сярэдзіна 1 - канец 2 тыс. н.э.) і геаграфічным ахопе (Беларусь і прылеглыя раёны Летувы, Польшчы, Украіны, Расеі і Латвіі) ацэньваецца як буйнейшая гістарычная з'ява рэгіёна. Сучасная навука лічыць, што вынікам гэтага працэсу стала ўтварэнне беларускага этнасу.

Навукоўцам удалося акрэсліць прыблізны кірунак балта-славянскай этнічнай мяжы ў X-XIII, XVI і XIX ст., г.зн. напярэдадні ўзнікнення ВКЛ, у першыя этапы яго існавання і пасля ліквідацыі дзяржавы. У старажытнарускія часы этнічная мяжа праходзіла прыблізна па лініі: воз. Асвейскае - Дзісна - Пліса - Будслаў - Заслаўе - Рубяжэвічы - Дзераўная - Беліца - Слонім - Ваўкавыск. У XIV ст. мяжа перасунулася з левага на правы бераг Нёмана і праходзіла прыблізна паралельна рэчышчу гэтай ракі - т.зв. "лінія Сафарэвіча". У XIX ст. беларуска-летувіскую этнічную мяжу этнолагі даследавалі "нажыва" і акрэслілі яе на поўнач ад Вільні. Змены этнічнай мяжы паказваюць, што на працягу існавання ВКЛ адбылося значнае пашырэнне этнічнага арэалу беларусаў коштам этнічна летувіскай тэрыторыі.

Такім чынам прыходзім да высновы, што дзяржаўная арганізацыя ВКЛ аб'ектыўна аказалася больш спрыяльнай для традыцыйнай культуры беларусаў. Гэтую выснову дапаўняюць іншыя гістарычныя факты:

- Беларускія землі складалі асноўную частку дзяржавы і былі сабраныя ў адзіным

дзяржаўным арганізме ўжо ў XIV ст., у той час як летувіскія землі поўнасцю ў складзе ВКЛ апынуліся на паўстагоддзя пазней (Жамойць).
- Літаратуры на беларускай мове ў часы ВКЛ было створана непараўнальна больш чым на мове летувіскай.
Сёння летувіскія калегі аспрэчваюць беларускасць афіцыйнай (дзяржаўнай) мовы ВКЛ у XIII-XVII ст., сцвярджаючы, што яна была штучнай канцылярскай мовай. Аднак немагчыма аспрэчыць той факт, што лексічная аснова гэтай штучнай мовы (бо кожная афіцыйная ды судовая мова з'яўляецца штучнай) была беларускай, а не летувіскай. І ўся захаваная аграмадная актавая спадчына ВКЛ, створаная на афіцыйнай мове, складае гістарычны патэнцыял у першую чаргу беларускай культуры яшчэ і таму, што ў большасці датычыць беларускіх земляў. Іншая справа, як гэты патэнцыял быў скарыстаны ў найноўшай гісторыі, але тое ўжо не датычыць гісторыі ВКЛ.
Падсумаванне
1. За два апошнія стагоддзі існавання ВКЛ беларусы і летувісы страцілі сацыяльную эліту і ўвайшлі ў навейшую гісторыю як "сялянскія" народы. Таму этнічная характарыстыка ВКЛ можа быць вызначана праз вывучэнне ўплыву гэтай дзяржавы на стан традыцыйнай сялянскай культуры беларусаў і летувісаў.
2. Уплыў дзяржавы на традыцыйныя этнічныя культуры не меў свядомага планавага характару, а адбываўся аб'ектыўна.
3. За час існавання ВКЛ этнічны арэал беларусаў значна павялічыўся коштам летувіскага.
4. Беларускія землі складалі асноўную большую частку тэрыторыі ВКЛ.
5. Агромністая дакументальна-пісьмовая спадчына ВКЛ, створаная на афіцыйнай старабеларускай мове, складае гістарычна-культурны патэнцыял у першую чаргу беларускага, а не летувіскага народа.
Высновa:
Функцыянаванне дзяржаўнай арганізацыі ВКЛ было больш спрыяльным для традыцыйнай беларускай, чым традыцыйнай летувіскай культуры, таму з сучаснага пункту погляду ВКЛ было больш беларускай чым летувіскай дзяржавай.
**Артыкул:** *А. Краўцэвіча*

# Алесь Дудар (24.12.1904 – 29.10.1937) беларускі паэт, крытык, перакладчык.



Маладая, як майскае сонца, дзяўчына,
нібы сонечны зайчык ў бакітных лугах –
ты размову вядзеш самавіта і чынна,
а вясёлыя знічкі гарäць у вачах.

-

У новых хатах, у ліпавых лёгкіх калысках
Спяць маленькія крэпкія палешукі,
Спіць шчаслівы народ, да якога і блізка
Не падыдуць ні ведзьмы, ні дамавікі.

# *Гістарычны каляндар*

Галоўныя падзеі снежня

**1 снежня 1618 г.**

выніку паспяховага паходу на Маскву каралевіча Уладзіслава Вазы, які меў тытул "цара маскоўскага і ўсяе Русі", было падпісанае Дэўлінскае замірэнне. Да Вялікага княства Літоўскага адышло 29 местаў, у тым ліку Смаленск і Чарнігаў, а Уладзіслаў Ваза пацвердзіў свае фармальныя правы на маскоўскі прастол (адрокся ад іх толькі ў 1634 годзе).

**2 снежня**

110 гадоў з дня нараджэння Вольнага Анатоля (сапр. Ажгірэй Анатоль Іўсцінавіч) (1902 – 1937), паэта, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**3 снежня 1925 г.**

На загад ЦК КП(б)Б з рэпертуару Беларускага дзяржаўнага тэатру была знятая п'еса Янкі Купалы "Тутэйшыя", бо яна прапагандавала ідэі "нацыянал-дэмакратызму".

**4 снежня 1938 г**

Загінуў у ГУЛАГу віцэ-прэзідэнт АН БССР, ініцыятар стварэння Сялянскага Інтэрнацыяналу (1923) Тамаш Домбаль.

**5 снежня 1947 г.**

Нарадзіўся беларускі паэт Алесь Разанаў. У 60-я гады быў выгнаны з Беларускага дзяржаўнага універсітэту за патрабаванне перавесці выкладанне на беларускую мову.

**6 снежня 1926 г.**

РСФСР передала ў склад БССР Гомельскі і Рэчыцкі паветы расфармаванай Гомельскай губерні (астатнія 3 паветы былі далучаныя да Бранскай губерні).

**8 снежня 1991 г.**

Кіраўнікі Беларусі, Украіны і Расіі С.Шушкевіч, Л.Краўчук і Б.Ельцын заснавалі Садружнасць Незалежных Дзяржаваў і прапанавалі далучыцца да яе ўсім зацікаўленым у гэтым краінам.

**9 снежня 1918 г.**

Рада і ўрад БНР напярэдадні эміграцыі ў Вільню выдалі 5-ю Устаўную грамату. Беларускі народ заклікаўся у ёй да супраціву аднаўленню ўлады бальшавікоў і да стварэння па ўсім краі "беларускіх Саветаў", падначаленых Радзе БНР.

**9 снежня 1891 г.**

Нарадзіўся паэт Максім Багдановіч, які пакінуў нам багатую, шматгранную спадчыну.

**10 снежня 1865 г.**

Царскі ўрад забараніў асобам каталіцкага веравызнання і "польскага паходжання" купляць і арандаваць зямлю на Беларусі.

**12 снежня 1612 г.**

Нарадзіўся Януш Радзівіл (1612-1655), ваявода віленскі, гетман вялікі літоўскі, займае сваё асобае месца сярод слаўнага Радзівілаўскага роду.

**14 снежня 1938 г.**

Памёр у ГУЛАГу вядомы беларускі паэт-футурыст Міхась Чарот, былы рэдактар газеты "Савецкая Беларусь", аўтар сцэнарыя першага беларускага кінафільму "Лясная быль" і лібрэта оперы "Кветка шчасця".

**15 снежня 1934 г.**

Нарадзіўся Станіслаў Шушкевіч, першы кіраўнік незалежнай Беларусі.

**18 снежня 1973 г.**

Пётр Клімук стаў першым беларусам, што паляцеў у космас (потым здзейсніў яшчэ два палёты).

**20 снежня 1928 г.**

Аўтар 40 п'есаў і стваральнік тэатру "Трупа Галубка" Уладзіслаў Галубок першым атрымаў ганаровае званне народнага артыста БССР.

**21 снежня 1863 г.**

Царскія ўлады пакаралі смерцю паплечнікаў Кастуся Каліноўскага начальніка горада Вільні падчас паўстання Ігната Здановіча і камісара Віленскага ваяводства Мечыслава Дарманоўскага.

**23 снежня 1831 г.**

Памерла Эмілія Плятэр, збіральніца беларускага фальклору, удзельніца паўстання 1831 году, якой Адам Міцкевіч прысвяціў верш "Смерць палкоўніка".

**27 снежня 1836 г.**

Нарадзіўся Валерый Урублеўскі, удзельнік рэвалюцыйнага гуртка, адзін з стваральнікаў рэвалюцыйнай арганізацыі ў Гародні.

**Заснавальнік:** Студэнцкая гістарычная суполка "Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага"
**Галоўны рэдактар:** Дамарад В. А.
**Кантактныя тэлефоны:** (029) 732-75-93
**E-mail:** Recoba20.bel@mail.ru . **Інтэрнэт:** www.amataribelhist.gumshpora.ru
**Наклад:** 50 асобнікаў

***110 гадоў назад (1902) створана Беларуская рэвалюцыйная грамада, нацыянальная партыя леванародніцкага кірунку (з 1903 г. Беларуская сацыялістычная грамада)***

